1 верасня 2017 | № 32 (546)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Апошняя рэпетыцыя Пуціна

стар. 9

**4** ЦІ ЧАКАЦЬ ГАРАЧУЮ ВОСЕНЬ?

Бурлівая палітычная вясна паказала, што беларускае грамадства пазбаўляецца ад «сіндрому Майдану», то бок страху перад забурэннямі ў выніку вулічных акцый




**5** ДЦП — ДЫЯГНАЗ, АЛЕ НЕ ВЫРАК

Мне прапаноўвалі здаць яе ў дом-інтэрнат для інвалідаў. Але я сказала: якая б Света ні была — хворая ці здаровая — я не адмоўлюся ад яе, бо гэта маё дзіцё

**6–7** «МАГУТНЫ БОЖА», «МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ» І «ПАЛАНЕЗ» АГІНСКАГА



Якім мог быць гімн незалежнай Беларусі? Варыянтаў было мноства...

**10** ТЭРАРЫЗМ ЯК ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА

Адной з найбольш балючых для звычайнага насельніцтва формаў «чырвонага тэрору» ў Беларусі было ўзяцце закладнікаў і іх расстрэлы

# Ці варта адкрываць архівы КДБ?



Алесь КІРКЕВІЧ

Пад петыцыяй з патрабаваннем зняць грыф «сакрэтна» з усіх дакументаў, якія захоўваюцца ў архівах за 1917–1953 гады, у тым ліку — забяспечыць свабодны доступ да спраў рэпрэсаваных за часамі Сталіна, агучыць і пазначыць усе месцы масавага пахавання рэпрэсаваных падпісалася амаль 1000 чалавек.

Хаця для краіны — гэта кропля ў моры. Цяпер у Беларусі хапае іншых праблемаў — сацыяльных, эканамічных, дэмаграфічных — і зусім не завязаных на мінулым. Дык навошта адкрываць савецкія архівы зараз, калі ўжо і час прайшоў, і катаў, якія маглі б паўстаць перад судом, няма сярод жывых, і так напісаныя шматтомныя манаграфіі?

З боку сённяшніх нашчадкаў супрацоўнікаў НКУС ды афіцыёзных журналістаў часцяком можна пачуць: «Як гэта, адкрыць архівы? Ды тут такое пачнецца! Помста, разбіральніцтвы, скандалы...» Калі кажуць пра месцы расстрэлаў, па прыкладзе тых жа Курапатаў, зазвычай дадаюць, што ляжаць там далёка не толькі паэты ды навукоўцы. Там багата тых жа супрацоўнікаў савецкіх органаў, якія трапілі пад чарговую хвалю рэпрэсій, — а значыць, і іх трэба ўшаноўваць!

Рэдактар буйной дзяржаўнай газеты, здаецца, нават прыводзіў прыклад сваіх пошукаў у архівах КДБ напачатку 1990-х гадоў, калі наўпрост жахнуўся ад прачытанага: вялізная колькасць тых, каго ў нас прынята шанаваць як літаратараў нацыянальнага значэння, а ў наступным — бязвінных ахвяраў, самі працавалі на органы, здавалі і падстаўлялі сваіх сяброў ды знаёмых. Дык як далей фармаваць нацыянальны пантэон, ведаючы ўсё гэта?

Насамрэч, усе гэтыя аргументы нагадваюць элементарнае «забоўтванне» суразмоўцы. І чым больш туману і містыкі ў падобных размовах, тым страшней павінна быць. Маўляў, хай скрыня Пандоры застаецца зачыненай, бо інакш усё разваліцца: і наша — дзяржаўнае, і ваша — дэмакратычнае.

Пачнём з «вендэты», якая нібыта можа пачацца адразу пасля рассакрэчвання. Сёння мы маем прыклады не толькі краінаў Усходняй Еўропы і Балтыі, дзе архівы апублічаныя амаль 30 гадоў таму, але і Украіны, у якой да дакументаў СБУ доступ адкрылі пасля перамогі Майдану. Скажыце, дзе і калі канкрэтна зафіксаваныя прыклады такога кшталту «вендэты» на падставе архіўных дадзеных? Або нехта лічыць, што кроў у беларусаў больш гарачая за румынскую, вугорскую альбо ўкраінскую?

Ёсць і прыклад Германіі, дзе архівы гестапа і НСДАП з прозвішчамі катаў і ахвяраў трапілі ў агульнае карыстанне адразу пасля вайны. Па-іншаму і быць не магло, бо без агучвання праблемы і яе выніку не магло быць і дэнацыфікацыі. Уявіце сабе, каб нехта спрабаваў супраціўляцца агучванню прозвішчаў ахоўнікаў Аўшвіцу на падставе таго, што ім гэта можа зашкодзіць! Сёння што вертухаі з Калымы, што следчыя з Полацку альбо Баранавічаў, якія працавалі ў 1930–1940-я, даўно знайшлі вечны спакой. Дык чаго баяцца? Адкрыйце архівы.

Калі кажуць пра супрацоўнікаў НКУС, якія могуць ляжаць побач са сваімі ўчорашнімі падследнымі ў Курапатах, дык ніхто ж гэтага і не аспрэчвае. Тым больш, агучванне поўнага спісу прозвішчаў і катаў, і ахвяраў, а таксама катаў, якія сталіся ахвярамі, дапаможа паказаць трагедыю максімальна шматбакова. Пры падобным рэжыме кіравання ніхто не можа адчуваць сябе ў бяспецы: якія б пагоны альбо шаўроны ні насіў, чый бы партрэт ні стаяў на працоўным стале. Кажаце пра чэкістаў-ахвяраў? Давядзіце, адчыніце архівы.




> **Агучванне праўды не толькі здыме німбы з адных, але і дасць безумоўнае алібі іншым, якія адмовіліся, не раскалоліся, не здрадзілі**

Аргумент пра тое, што адкрыццё архіваў аўтаматычна здыме німбы з пэўнай колькасці нацыянальных дзеячаў, цікавы, але зноў — міма. Калі ты не маеш інфармацыі, асабліва пасля такіх заяў, то і падазраеш усіх. Тут як з фантазіямі раўнівага мужа: калі жанчына можа здрадзіць, значыць, здраджвае штораз, як выходзіць з хаты — нават калі ідзе ў краму па малако. Таму агучванне праўды не толькі здыме німбы з адных, але і дасць безумоўнае алібі іншым, якія адмовіліся, не раскалоліся, не здрадзілі. Магчыма, нацыянальны пантэон кагосьці згубіць пасля гэтага, але абавязкова кагосьці знойдзе. Каб пераканацца — адкрыйце архівы.

Часцяком можна пачуць рэплікі: маўляў, дзяржбяспека займалася не адно палітыкай, але і крымінальнікамі, і карупцыянерамі, і сапраўднымі замежнымі шпіёнамі, то бок — профільнай працай. Таму і мазаць чорнай фарбай усіх не варта. Пакінем убаку аналогію, кшталту таго, што КрыПо (крымінальная паліцыя ў Трэцім рэйху) таксама лавіла гвалтаўнікоў і злодзеяў, бо гэта — іх абавязкі, пытанне ў іншым. Калі так — давядзіце гэта, пакажыце сапраўды шчырых чэкістаў з чыстымі рукамі, якія баранілі суайчыннікаў, а не толькі правадыра партыі. Як? Адчыніце архівы.

Наогул, уяўленне пра тое, што агучванне нейкай інфармацыі, звязанай са злачынствамі дзяржавы супраць яе грамадзян, можа справакаваць невылечны крызіс у грамадстве, сведчыць толькі аб адным: ні пра які давер паміж уладай і народам размовы быць не можа. Давайце шчыра, крызіс даверу ўжо і так ёсць, і акурат каб яго мінімізаваць, патрэбная празрыстасць сістэмы і права кожнага на праўду. Таму, для пачатку, адкрыйце архівы!

# Амаль 1000 подпісаў за адкрыццё архіваў

**Петыцыя, якая з'явілася ў інтэрнэце 23 жніўня, сабрала за тыдзень амаль 1000 подпісаў з патрабаваннем адкрыць архівы, звязаныя са сталінскімі рэпрэсіямі.**

Збор подпісаў ініцыяваў аргкамітэт форуму «Бальшавіцкі тэрор. Права на ўстанаўленне ісціны».

Аўтары петыцыі высунулі наступныя патрабаванні:

- Зняць грыфы сакрэтнасці з усіх змешчаных на захоўванне ў Беларусі дакументаў за 1917–1953 гады.
- Перадаць з ведамасных у адкрытыя дзяржаўныя архівы ўсе архіўна-следчыя справы на рэпрэсаваных у 1920–1970-я гады. Забяспечыць свабодны доступ да ўсіх дакументаў, якія знаходзяцца на захоўванні больш за 75 гадоў, што ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам не могуць падпадаць пад абмежаванне як таямніца асабістага жыцця.
- Забяспечыць свабодны доступ (у тым ліку і праз інтэрнэт) да базы дадзеных «Звесткі аб неабгрунтавана рэпрэсаваных грамадзянах Беларусі», якая знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, бо наяўная ў ёй інфармацыя не падпадае ні пад якія законныя абмежаванні.
- Усталяваць і назваць усе існуючыя ў Беларусі месцы масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяр рэпрэсіяў.
- Пазначыць гэтыя месцы, усталяваць вакол іх адпаведныя ахоўныя зоны, назваць імёны пахаваных там ахвяраў палітычных рэпрэсіяў і прыняць усе меры па ўвекавечанні іх памяці.
- Правесці поўную і канчатковую рэабілітацыю сотняў тысяч грамадзян: раскулачаных, ваеннапалонных, замежных грамадзян і г.д. Пры адсутнасці інфармацыі пра месцы адбыцця пакарання, а таксама высланых у адміністрацыйным парадку ў розныя рэгіёны СССР, звярнуцца на дзяржаўным узроўні да кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі і Казахстана з просьбай, каб кампетэнтнымі органамі быў праведзены пошук і складзеныя пайменныя спісы ўсіх рэпрэсаваных грамадзян БССР. Пры адсутнасці ў Беларусі звестак пра месцы расстрэлаў і пахаванняў, уключаючы Курапаты, на дзяржаўным узроўні звярнуцца да кіраўніцтва РФ, каб адпаведны пошук быў праведзены ў архівах ФСБ і МУС РФ.
- Прызнаць адмаўленне сталінскіх рэпрэсіяў, іх апраўданне і прапаганду сталінізму, у залежнасці ад цяжару, адміністрацыйным ці крымінальным злачынствам і ўнесці адпаведныя змены ў адпаведныя Кодэксы.

***Падпісаць петыцыю можна на сайце «Зручны горад» (petitions.by).***

# Геніюш не падлягае рэабілітацыі

**«Моладзь БНФ» атрымала чарговую адмову ў рэабілітацыі беларускай паэткі Ларысы Геніюш.**

Рэабілітацыі выбітнай паэткі і грамадскай дзячкі актывісты «Моладзі БНФ» дамагаюцца ўжо даўно. Але на любыя ініцыятывы і спробы ўшанаваць памяць Ларысы Геніюш улады рэагуюць катэгарычна. Назваць у яе гонар новую вуліцу ў Мінску ці ў Зэльве, на радзіме Геніюш, яны лічаць «немэтазгодным», ушанаваць яе імя ў назве бібліятэкі — «неабгрунтаваным». Яшчэ раней актывісты сабралі і накіравалі ў Генпракуратуру больш за тысячу подпісаў за рэабілітацыю дзячкі, на што быў дадзены цвёрды і катэгарычны адказ «Геніюш Л.А. прызнана не падлеглай рэабілітацыі».

І вось прыйшоў чарговы адказ, цяпер з Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь. Улады зноў адмаўляць у рэабілітацыі паэткі, спаслаўшыся на пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Суда ад 24 лістапада 1999 года, згодна з якой асоба Геніюш не можа быць рэабілітавана «за здзейсненыя ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі 66 і 76 КК БССР (у рэдакцыі 1928 года)». Нават пры тым, што «злачынствы», за якія была пакарана Ларыса Антонаўна, ужо даўно перасталі лічыцца такімі ў Беларусі, а падобных артыкулаў і блізка няма ў Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь.

Ларыса Геніюш прайшла складаны жыццёвы шлях, вытрымаўшы ўсе выпрабаванні лёсу і савецкіх улад: рэпрэсіі, ГУЛАГ, забароны. Таму рана ці позна яе імя будзе ўшанавана з годнасцю, а яе вершы зноў загучаць на ўроках беларускай літаратуры, нават нягледзячы на ўсе надуманыя працэсы і так званыя «злачынствы».

**Паводле прэс-служба «Моладзі БНФ»**

# 10 прапаноў па лібералізацыі адміністратыўнага кодэкса

Арцём ЛЯВА

**Цяперашняе заканадаўства правакуе на злачынствы міліцыянтаў і вымушае суддзяў выносіць несправядлівыя прысуды, лічаць праваабаронцы.**

Ініцыятыва «Крок да закону» і ГА «Прававая дапамога насельніцтву» прэзентавалі прапановы па стварэнні адміністратыўнай юстыцыі і па лібералізацыі адміністратыўнага заканадаўства.

Як адзначыў праваабаронца Алег Волчак, паводле звестак МУС, кожны год да адміністратыўнай адказнасці прыцягваецца каля 3,8 мільёна чалавек (акрамя судоў, гэтае права маюць каля 30 упаўнаважаных органаў). У судовым парадку ў 2016 годзе да адказнасці прыцягвалася 341 тысяча 709 чалавек. З іх пакарана арыштам 42 тысячы, штрафамі — 222,5 тысячы. Памеры штрафаў для грамадзян дасягаюць 50 базавых велічынь, для суб'ектаў гаспадарання — 1000 базавых велічынь.

Адміністратыўнае заканадаўства даўно наспеў час змяняць, лічаць распрацоўшчыкі прапаноў. Сённяшні КоАП фактычна правакуе на злачынствы міліцыянтаў, якія па загадзе начальства лжэсведчаць, і суддзяў, якія вымушаны выносіць несправядлівыя прысуды адносна ўдзельнікаў апазіцыйных акцый.

Пры велізарнай колькасці адміністратыўных спраў, існуе вельмі абмежаваная колькасць тых, хто можа аказваць прававую дапамогу ў судзе (на сённяшні дзень, па законе, гэта могуць рабіць толькі адвакаты). На думку распрацоўшчыкаў прапаноў, у сённяшнім КоАП прадугледжаны занадта вялікія штрафы і значныя тэрміны арышту за адміністратыўныя правапарушэнні, а ўмовы для арыштаваных не адпавядаюць мінімальным правілам. Магчымасці для абскарджвання дзеянняў дзяржслужбоўцаў і адміністратыўных пакаранняў таксама істотна абмежаваныя.

Удзельнікі канферэнцыі, сярод якіх былі заслужаны юрыст Міхаіл Пастухоў, праваабаронцы Алег Волчак, Вольга Маёрава, Наталля Гарачка-Басалыга, Юры Валчок прэзентавалі і пракаментавалі па некалькі пунктаў прапаноў па стварэнні адміністратыўнай юстыцыі і па лібералізацыі адміністратыўнага заканадаўства. Тэзісна гэтыя пункты выглядаюць так:

1. Прыняць закон пра абскарджванне ў судовым парадку дзеянняў і рашэнняў прадстаўнікоў уладаў, якія парушаюць правы і свабоды грамадзян у сферы адміністратыўных праваадносінаў.
2. Скарачіць колькасць дзяржаўных органаў, упаўнаважаных прыцягваць грамадзян да адміністратыўнай адказнасці ў несудовым парадку.
3. Увесці інстытут адміністратыўнага правасуддзя.
4. Ролю абвінавачвання павінен выконваць бок, які ініцыюе адміністратыўны працэс.
5. Вярнуць права грамадзянам запрашаць для абароны сваіх прадстаўнікоў (не толькі адвакатаў).
6. Прадугледзіць права абскарджвання пастановы пра адміністратыўнае спагнанне, а таксама зменшыць памер пошліны за падачу скаргі.
7. Прызнаць адміністратыўны арышт выключнай мерай адміністратыўнага пакарання і абмежаваць яго максімум 10 суткамі.
8. Паменшыць памеры штрафаў і абмежаваць прымяненне канфіскацый.
9. Прыняць захады для перагляду КоАП і ПВКоАП
10. Стварыць пасаду амбудсмена.

Гэтыя прапановы ўзніклі на выніках дзейнасці групы экспертаў у межах Дыялогу па мадэрнізацыі Рэспублікі Беларусь, што праходзіў пад эгідай прадстаўніцтва ЕС у Беларусі ў 2011–2012 гадах, які быў фактычна прыпынены. Праваабаронцы гатовыя аднавіць такі дыялог і гатовыя ў ім удзельнічаць. Прапановы ў бліжэйшы час будуць накіраваны ў Вярхоўны суд, МУС, Генпракуратуру, Палату прадстаўнікоў, Адміністрацыю прэзідэнта.

# Тры галоўныя міфы наконт уборачнай кампаніі

Пётр ГАЙДУК

**Жніво–2017 пасля ўмяшання Лукашэнкіператварылася ледзь не ў самую рэзанансную падзею лета. «Салідарнасць» развенчвае галоўныя міфы наконт уборачнай кампаніі ў Беларусі.**

### Камбайнеры шмат зарабляюць

Пра гэта перыядычна згадвалі ў розных дзяржаўных СМІ. У гэтым годзе падкрэслівалася, што пры добрым намалоце камбайнер атрымліваў па 100 рублёў у дзень.

Вось прыклад статыстыкі ад газеты «Рэспубліка»: «Паводле слоў дырэктара ААТ «Старыца-Агра» Уладзіміра Рудакоўскага... у сярэднім добры камбайнер сёння можа ў дзень намалаціць на 120–130 рублёў. У выніку за жніво, якое доўжыцца ад 14 да 20 дзён, такія работнікі атрымаюць ад 1700 да 2600 рублёў».

Іншымі словамі, паспяховы камбайнер мог зарабіць у той месяц, калі ішло жніво, каля тысячы долараў.

Але пра што забывалі сказаць? Пра тое, што людзі часцяком працавалі ў гэты месяц у цяжкіх умовах (спякоту) больш за 12 гадзін на дзень (кандыцыянер у айчынных камбайнах да гэтага часу з'яўляецца раскошай). І пра тое, што для большасці работнікаў вышэйназваныя заробкі застаюцца цяжкадасягальнымі па прычыне дрэннай якасці тэхнікі, якая рэгулярна ламаецца.

І самае галоўнае: нармальныя грошы камбайнеры атрымліваюць толькі ў жніво — раз на год. Заробленае адкладаецца, каб потым пры заробках, якія часта меншыя ў разы, звесці канцы з канцамі.

### Лукашэнка адрадзіў айчыннае камбайнабудаванне

Пра гэта нагадалі беларусам падчас наведвання кіраўніком Беларусі гаспадарак у Шклоўскім і Аршанскім раёнах. Дарэчы, у пачатку жніўня з яго падачы новыя камбайны «Гомсельмаш» сталі адпраўляць у калгасы без папярэдняй аплаты. Ну і?

У сярэдзіне жніўня газета «Рэспубліка» паведаміла: у Гродзенскай вобласці па 13 камбайнах, уведзеных у эксплуатацыю летам, зафіксавана 21 адмова. Крыху раней сумныя лічбы прывяла «Сельская газета»: у Магілёўскай вобласці з пачатку ўборачнай на той момант зафіксавалі 28 адмоваў гарантыйных камбайнаў.

Пісалі пра выпадак, калі новы камбайн «Гомсельмаша» гэтага года выпуску прапрацаваў у полі некалькі гадзін — і зламаўся...

### Лукашэнка навёў «жэстачайшую» дысцыпліну

Такога меркавання часцей за ўсё прытрымліваюцца госці з суседніх краін, сутыкнуўшыся з інфармацыяй пра бурную дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі ў сферы сельскай гаспадаркі. А што на самай справе?

З публікацый «Сельскай газеты» і газеты «Рэспубліка»: «Факты парушэнняў тэхналогіі ўборкі і нарыхтоўкі кармоў усталёўваюцца практычна ў кожнай другой праверанай сельгасарганізацыі»; «На некаторых прадпрыемствах староннія могуць спакойна зайсці на мехдвор або на збожжаток і ўзяць усё, што дрэнна ляжыць»; «Самыя прадпрымальныя камбайнеры падчас жніва ўмудраюцца хаваць мяхі са збожжам пад салому»; «Асабліва засмучаюць страты ўраджаю».

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У хісткай раўнавазе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускі ўрад вельмі любіць маляваць прыгожыя карцінкі. Але гэтыя карцінкі рэдка супадаюць з адчуваннямі грамадзян. А таму немагчыма прадказаць, што адбудзецца, калі малюнак уладаў канчаткова ўвойдзе ў супярэчнасць са штодзённым досведам насельніцтва.**



Фота www.rabkor.ru

Напрыклад, прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў па выніках нарады ў кіраўніка дзяржавы па актуальных пытаннях развіцця беларускай эканомікі казаў: «У нас устойлівая тэндэнцыя на зніжэнне інфляцыі... Ёсць перспектывы таго, што да снежня інфляцыя можа не перавысіць 7%».

Першапачаткова беларускія ўлады ставілі мэту знізіць інфляцыю ў 2017 годзе да 9% (з 10,6% у 2016 годзе). Па выніках студзеня-ліпеня цэны на спажывецкім рынку выраслі ў Беларусі на 3,3%. Міністэрства эканомікі ў чэрвені заявіла, што па выніках года інфляцыя ў краіне можа скласці 7%.

Тым не менш, насельніцтва, наадварот, адчувае рост цэнаў. Асабліва пасля таго, як, выдаткаваўшы грошы на летні адпачынак, народ пагледзеў у свае гаманцы і на кошты ў крамах. Чаму ж мы не адчуваем зніжэння інфляцыі «на сваёй скуры»?

Усё вельмі проста, тлумачыць, напрыклад, эканаміст Леў Марголін. Рост коштаў паводле дадзеных статыстыкі і рост коштаў паводле адчуванняў насельніцтва — вельмі розныя рэчы. Справа ў тым, што афіцыйная інфляцыя разлічваецца па пэўным кошыку тавараў і паслуг, а доля тых ці іншых тавараў і паслуг у гэтым кошыку ўсталёўваецца самім Белстатам. Шараговага ж спажыўца не прымусіш купляць толькі тое, што закладзена ў «статыстычны» кошык, а таму для кожнай асобнай сям'і гэтая інфляцыя можа выглядаць па-іншаму.

Што датычыцца прагназаў да канца года, то, на думку эканаміста, у аптымістычным прагнозе мы можам і не ўтрымацца. Па-першае, Аляксандр Рыгоравіч паставіў задачу давесці заробак «усім па 500», і ўдакладніў: для бюджэтнікаў — 800 рублёў. Для таго, каб заплаціць столькі бюджэтнікам, трэба будзе, хутчэй за ўсё, друкаваць грошы, бо нейкіх рэальных падстаў для значнага павышэння заробку папросту няма. Рост ВУП Беларусі, пра які нам таксама з прыдыханнем распавядаюць па тэлевізары, знаходзіцца ў межах статыстычнай памылкі.

Па-другое, гэта запланаваны рост коштаў на камунальныя паслугі, да канца года іх плануецца павысіць аж у два разы. Гэтыя паслугі таксама ўлічваюцца Белстатам пры разліку паказчыка інфляцыі. І таму за чатыры месяцы да канца года пра ўтаймаванне інфляцыйнага звера казаць рана.

Дарэчы, наконт павышэння заробку бюджэтнікам. Праз тыдзень пасля знакамітай нарады ў Аляксандра Рыгоравіча той жа Андрэй Кабякоў расказаў, што 800 рублёў заробку ім, бюджэтнікам, не свеціць. Паводле яго словаў, сярэдні заробак бюджэтнікаў у 2018 годзе павінен скласці не менш як 750–760 рублёў. І тое, калі будуць самыя спрыяльныя ўмовы.

«Па кансерватыўным сцэнары тэмп росту ВУП асцярожна ацэньваецца ў 101,2%. Пры гэтым сярэдняя зарплата ў бюджэтнай сферы пралічваецца на ўзроўні каля 700 рублёў. Але мэтавы прагноз на 2018 год — 103,4% (рост ВУП)», — сказаў ён.

Калі спраўдзіцца не кансерватыўны, а мэтавы сцэнар, дык эканоміка зможа згенераваць даходы фондау у абʼёме, дастатковым для павышэння сярэдняга заробку бюджэтнікаў у 2018 годзе да ўзроўню 750–760 рублёў. А калі не — выбачайце.

А калі ў нас апошнім часам спраўджваліся аптымістычныя сцэнары? Ды ніколі...

Ёсць яшчэ адзін фактар, здольны паўплываць як на нашы заробкі, так і на ўзровень айчыннай інфляцыі. Днямі расійскія эканамісты, прааналізаваўшы манетарную палітыку адміністрацыі прэзідэнта ЗША Дональда Трампа і эфекты ад новых сектаральнай санкцый супраць РФ, прыйшлі да высновы, што ў чацвёртым квартале гэтага года расійскі рубель можа сур'ёзна «ліхаманіць». Не выключаны таксама і сцэнар абвалу валюты ўсходняга суседа.

А паколькі ў нас 50% экспарту завязана на Расію, то абвал расійскага рубля непазбежна выкліча аналагічныя працэсы ў Беларусі. І дэвальвацыя беларускага рубля будзе ў любым выпадку — інакш нашы тавары ў Расіі па кошце стануць проста неканкурэнтаздольныя.

Больш за тое, тыя ж расіяне самі казалі, што іх рубель «пераацэнены», і яго так ці інакш трэба «апускаць» у адносінах да долара. Гэтае «апусканне» меркавалася зрабіць восенню, а тут яшчэ плюс і сектаральныя санкцыі ЗША. Так што, верагодна, можна зваліць карысны «абвал рубля» на «падступных амерыкосаў»... Адзінае, што гэтаму пакуль замінае, — палітыка. Напачатку 2018-га ў Расіі адбудуцца прэзідэнцкія выбары, і Пуціну за паўгода да іх лепей утрымацца ад непапулярных рухаў кшталту зніжэння рубля. Ці прынясе ён эканоміку ў ахвяру палітыцы? Верагодней за ўсё, так і станецца. Але потым «аддача» будзе яшчэ больш балючай, чым калі б гэта ён зрабіў зараз.

Ну, і яшчэ крыху пра бескарысныя пасяджэнні Лукашэнкі з урадам. Бачна, што Аляксандр Рыгоравіч сам незадаволены тым, якая інфармацыя да яго даходзіць і якім чынам ажыццяўляюцца (ці, дакладней, не ажыццяўляюцца) яго планы і даручэнні. А таму ён на тыдні падпісаў палажэнне пра паўнамоцных прадстаўнікоў кіраўніка дзяржавы, якія будуць прызначаныя ва ўсіх абласцях і Мінску.

У задачы такіх прадстаўнікоў будзе ўваходзіць аналіз і прагназаванне сітуацыі ў эканамічнай і сацыяльнай сферах на замацаванай за імі тэрыторыі, у тым ліку ацэнка наяўных праблем, інфармаванне кіраўніка дзяржавы пра становішча спраў у вобласці, выпрацоўка прапаноў па развіцці асобных рэгіёнаў.

Ведаеце — гэта крута. Мы кажам пра «аптымізацыю дзяржаўнага апарату», на гэтым жа тыдні былі вызваленыя ад пасады аж шэсць намеснікаў міністраў! І адначасова мы ствараем «паўнамоцных прадстаўнікоў» у шасці абласцях і Мінску з функцыямі «інфармавання і выпрацоўкі прапаноў» — то бок, пісанне справаздачаў і нічога больш. Нават не вельмі здзіўлюся, калі гэтыя «вызваленыя ад пасады» намеснікі заўтра стануць паўнамоцнымі прадстаўнікамі. І адно цёплае мястэчка яшчэ захаваецца ў рэзерве.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Апазіцыйны палітык і экс-кандыдат у прэзідэнты ўсё ж трапіў у спецпрыёмнік-размеркавальнік.**

Статкевіч быў затрыманы 26 жніўня на прыпынку грамадскага транспарту. Жонка палітыка спачатку выказала здагадку, што яго затрымалі для адбыцця 15-сутачнага арышту, якім ён пакараны за арганізацыю вулічнай акцыі ў Мінску 3 ліпеня. Аднак пазней патэлефанавалі з Ленінскага РУУС і сказалі, што Статкевіч будзе адбываць пяць сутак арышту.

Марыне Адамовіч удалося атрымаць у судзе Маскоўскага раёна копію судовага рашэння, у адпаведнасці з якім Статкевіч асуджаны на пяць сутак. 30 сакавіка Статкевіч і іншыя палітыкі і грамадскія дзеячы сустракалі каля ЦІП арыштаваных за ўдзел у акцыі на Дзень Волі 25 сакавіка. Тады актывісту АГП Дзмітрыю Кавалгіну міліцыянты вярнулі вялікі бел-чырвона-белы сцяг, які і быў разгорнуты ўдзельнікамі сустрэчы на непрацяглы час — каля хвіліны. Гэтая хвіліна і была пастаўленая ў віну Статкевічу.

Больш за тое, згодна з заканадаўствам, тэрмін выканання такога пакарання складае два месяцы — гэта значыць, Статкевіча павінны былі арыштаваць не пазней чым у ліпені, а зараз тэрмін мінуў. Тым не менш, ён змешчаны ў ізалятар.

Палітык быў выпушчаны з прыёмніку-размеркавальніку пасля арышту ўдзень 31 жніўня. Але ў яго засталіся яшчэ «неадседжаныя» 15 сутак за 3 ліпеня.

А тым часам паплечнікі Статкевіча заклікалі 8 верасня, у Дзень беларускай вайсковай славы, прысягнуць на вернасць Айчыне на Кастрычніцкай плошчы.

## Ірына Вештард



**Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада» заявіла пра тое, што не будзе балатавацца на пасаду старшыні партыі.**

БСДП «Грамада», і ўвогуле беларускія сацыял-дэмакраты, маюць рэпутацыю лідзіруючай партыяй па колькасці звязаных з імі скандалаў і расколаў. Днямі некаторыя сябры партыі на пасяджэнне Цэнтральнага камітэту структуры прыйшлі з плакатамі: «Банду гэць!», «Пераможам Вештард — пераможам Луку!». Шэсць чальцоў ЦК у знак пратэсту супраць старшыні партыі пакінулі пасяджэнне.

Абвінавачванні ў аўтарытарным стылі кіравання Вештард адмаўляе, а дэмарш незадаволеных спісвае на кампанію «Гавары праўду!». Маўляў, гэта прыхільнікі ГП дагэтуль «каламуцяць» партыю і спрабуюць унесці чарговы раскол у яе шэрагі.

Пры гэтым Вештард адзначыла, што ў партыі застанецца: «Я сыходжу з пасады старшыні, але не выходжу з партыі... І гэта не азначае, што я стану зусім абыякава ставіцца да таго, як партыя будзе развівацца далей».

## Максім Місько



**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў абвясціў пра незвычайную для парламента ініцыятыву.**

Як паведаміў Місько, увосень у парламенце з'явіцца «антыалкагольная» дэпутацкая група.

Усё пачалося з таго, што Максім Місько і Вольга Палітыка накіравалі віцэ-прэм'еру Васілю Жарко прапановы па абмежаванні продажу і ўжывання алкагольнай прадукцыі. Над гэтымі прапановамі працавалі таксама Валерый Курсевіч, Валерый Барадзеня, Дзмітрый Шаўцоў, Віталь Уласевіч, Юрый Лобач. Паводле меркавання Місько, яны і ўвойдуць у дэпутацкую групу з папярэдняй назвай «Група па распрацоўцы заканадаўства аб супрацьдзеянні распаўсюду наркаманіі і алкагалізму».

«Мы ні ў якім выпадку не кажам пра сухі закон і пра тое, што людзі не змогуць набыць алкагольныя напоі, — акцэнтуе ўвагу дэпутат. — Нашы прапановы накіраваныя ў першую чаргу на бяспеку дзяцей... Каб у падрастаючага пакалення фармавалася іншае стаўленне да алкаголю, каб дзеці разумелі, што гэта не норма жыцця».

Дэпутаты прапануюць сярод іншага ўвесці забарону на гандаль алкаголем на аўтазапраўках; прапрацаваць пытанне аб арганізацыі ізаляваных алкагольных аддзелаў у крамах агульнай плошчай 1 тыс. кв.м і больш, а таксама ўвесці забарону на продаж алкаголю з 22 да 9 гадзін і павысіць узроставы парог продажу алкаголю.




**Людзей абурае не беднасць, а несправядлівасць уладаў. Прымушаць людзей, якія апынуліся без працы, прычым па віне дзяржавы, плаціць за гэта штраф, насельніцтва палічыла вялікай несправядлівасцю. А несправядлівасць улады — гэта ідэалагічная дамінанта любой рэвалюцыі**

# Ці чакаць гарачую восень?



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Бурлівая палітычная вясна выклікала вялікі ажыятаж і рэзананс у асяроддзі палітызаванай публікі.**

Прадстаўнікі апазіцыі, экспертнай супольнасці, медыяў ужо выказалі шмат прагнозаў наконт верагоднай гарачай восені. Маўляў, сацыяльна-эканамічныя праблемы не вырашаныя, у грамадстве існуе напружанасць, а тут яшчэ дэкрэт аб дармаедах будзе рэанімаваны ў новым варыянце.

Уся праблема ў тым, што прырода публічнага пратэсту — справа загадкавая. Гэта заўсёды рэч непрагназуемая і непрадказальная. Бо звязаная з чалавечай псіхалогіяй, якая цяжка паддаецца рацыяналізацыі. Не выпадкова, ніводная рэвалюцыя не была прадказаная загадзя. Дарэчы, і вясновыя пратэсты ў Беларусі сталіся нечаканымі і для ўлады, і для апазіцыі, і для экспертаў.

Любы масавы пратэст выкліканы комплексам прычын, якія моцна адрозніваюцца ў розных краінах і гістарычных эпохах. Само па сабе незадавальненне насельніцтва эканамічным станам рэдка выштурхоўвае людзей на вуліцы і плошчы. Не існуе наўпростай сувязі паміж беднасцю і рэвалюцыяй. На свеце існуе шмат краін з бедным насельніцтвам, але рэвалюцый там няма.

Выбух сацыяльнага пратэсту здараецца зусім нечакана, усё можа загарэцца ад зусім, здаецца, нязначнай падзеі. Вось сёлета мы адзначаем 100-годдзе расійскай рэвалюцыі. А з чаго ўсё пачалося? З-за снежных заносаў на чыгунцы ў Петраград не падвезлі дастаткова хлеба, народ абурыўся — і праз пяць дзён самаўладдзе было зрынутае.

Ці больш блізкія да нас прыклады. У 1980 годзе на адной суднаверфі ў Гданьску быў створаны незалежны прафсаюз «Салідарнасць», праз некалькі месяцаў у яго ўступіла большасць працоўнага насельніцтва Польшчы — і камуністычным уладам давялося ўводзіць ваеннае становішча, каб утрымаць сітуацыю пад кантролем. Рэвалюцыя ў Румыніі 1989 года пачалася з таго, што ў невялікім правінцыйным горадзе Цімішаары былі зняты з пасады і выселены з дому мясцовы пастыр. Штуршком да масавых пратэстаў у Тунісе, што перараслі ў рэвалюцыю ў 2010 годзе, стала самаспаленне вулічнага гандляра.

Хачу звярнуць увагу на адну прычыну масавага пратэсту, якая, на маю думку, з'яўляецца галоўнай. Гэта неадэкватнасць, дурнота, недальнабачнасць самой улады. Часта менавіта яе дзеянні прыводзяць да рэвалюцыйнага выбуху. І толькі затым на падзеі ўплываюць іншыя чыннікі (актыўнасць апазіцыі, замежны ўплыў і г.д). Прыкладаў процьма.

Першая расійская рэвалюцыя пачалася з-за таго, што 9 студзеня 1905 года было расстралянае мірнае шэсце рабочых, якія прышлі да Зімняга палацу ў Санкт-Пецярбургу прасіць міласці ў цара («крывавая нядзеля»). Рашэнне абсалютна вар'яцкае. І праз кароткі час загарэлася ўся краіна.

Больш блізкі прыклад. Хутка будзем адзначаць чацвёртую гадавіну кіеўскага Майдана. Ён цягнуўся тры месяцы. За гэты час было некалькі момантаў, калі пратэст згасаў, і здавалася, што вось-вось знікне сам сабой. Аднак кожны раз няўклюднымі дзеяннямі ўладаў ён набываў новую моц. То бок тры месяцы запар прэзідэнт Віктар Януковіч з усіх магчымых варыянтаў рашэнняў выбіраў найгоршы. Гэта папросту наглядная ілюстрацыя паводзінаў слабага лідара ва ўмовах крызісу.

Але вернемся да сённяшніх беларускіх рэаліяў. Мне падаецца, што чым мацней беларуская сацыяльная мадэль пагружаецца ў крызіс, тым больш памылак робіць Аляксандр Лукашэнка. Некалькі прыкладаў.

Возьмем тое ж заданне кіраўніка Беларусі давесці сярэдні заробак у краіне спачатку да 500 долараў, ці 1 тысячы рублёў, а цяпер — 1,5 тысячы рублёў. Яно толькі раздражняе людзей, бо існуе ўспамін пра тое, чым закончылася абяцанне даць такі заробак мінулыя разы. Да таго ж у рэгіёнах не тое, што



1 тысяча рублёў, а нават 500 рублёў лічыцца добрым заробкам. Таму ўсе гэтыя заманухі хутчэй дрэнна ўплываюць на імідж кіраўніка Беларусі.

Ці вось яшчэ сюжэт з таго ж шэрагу. Лукашэнка аддаў загад да 1 мая працаўладкаваць усіх непрацуючых. І чыноўнікі даюць справаздачу, што задача выкананая! Цяпер сам кіраўнік дзяржавы на нарадзе 22 жніўня прызнаў, што гэта паказуха і ашуканства.

Альбо загад Лукашэнкі перавесці пачатак заняткаў у школе на 9 гадзін раніцы, бо ягоны сын Коля не высыпаецца. Усё гэта моцна абурае людзей.

Ну а гісторыя з дэкрэтам аб дармаедах — класіка жанру. Гэта прыклад для падручнікаў, як адным рашэннем можна стварыць для краіны і самога сябе столькі праблем, спарадзіць шырокія сацыяльныя пратэсты. Дэкрэт аб дармаедах стаў дэтанатарам, каталізатарам, спускавым кручком шырокага незадавалення ў грамадстве сацыяльна-эканамічным станам.

Людзей абурае не столькі беднасць, колькі несправядлівасць уладаў. А якраз дэкрэт аб дармаедах і разбурыў вобраз справядлівай улады. Бо прымушаць людзей, якія апынуліся ў бядзе, без працы, прычым па віне дзяржавы, плаціць за гэта штраф, насельніцтва палічыла вялікай несправядлівасцю. А несправядлівасць улады — гэта ідэалагічная дамінанта любой рэвалюцыі.

Бурлівая палітычная вясна паказала, што беларускае грамадства пазбаўляецца ад «сіндрому Майдану», то бок страху перад забурэннямі ў выніку вулічных акцый. Гэта вельмі важная выснова.

Нагадаю, што новы варыянт дэкрэту аб дармаедах плануецца прыняць да 1 кастрычніка. І гэта на тле таго, што беспрацоўе ў краіне расце. Гэта прызнаў сам Лукашэнка на нарадзе 22 жніўня: «У нас па-ранейшаму прадпрыемствы працягваюць больш звальняць, чым прымаць на працу… Як мяне інфармуюць, колькасць занятых у эканоміцы скарачаецца».

Усе гэтыя чыннікі сведчаць на карысць магчымых пратэстаў.

Але існуюць не менш важкія фактары, якія ўплываюць на невысокую верагоднасць восенскіх вулічных акцый. Дэкрэт аб дармаедстве, які выклікаў вясновыя маршы незадаволеных, рэальна будзе дзейнічаць не раней за пачатак 2018 года. То бок, падатковыя органы пачнуць патрабаваць плаціць штраф за дармаедства толькі праз нейкі час пасля яго прыняцця.

Нікуды не знік страх рэпрэсій. 25 сакавіка ўлады паказалі, як яны гэта ўмеюць рабіць. І крымінальная справа адносна кіраўніцтва незалежнага прафсаюза РЭП — таксама напамін, а магчыма, і прэвентыўны крок супраць апанентаў рэжыму.

У Беларусі нізкая салідарнасць паміж людзьмі, слабыя гарызантальныя сувязі. Фактычна адсутнічае грамадзянская супольнасць у тым выглядзе, як гэта разумеюць у краінах Захаду.

Галоўны чыннік, які адмоўна ўплывае на вулічныя пратэсты — гэта існая палітычная сістэма. Беларусы — людзі прагматычныя, і яны не вельмі разумеюць, як з дапамогай выхаду на плошчу можна вырашыць нейкую праблему. У дэмакратычных краінах любы публічны пратэст адразу пераводзіць пытанне, з-за якога людзі пратэстуюць, у палітычную плоскасць. Яго падхоплівае парламенцкая апазіцыя, пытанне разглядае парламент альбо мясцовы муніцыпалітэт. Калі гэта працоўны канфлікт, то яго агучвае прафсаюз. Гарачае пытанне падрабязна і ўсебакова асвятляюць асноўныя СМІ, найперш, галоўныя тэлеканалы.

Праблема ў тым, што ў Беларусі ўсе гэтыя інстытуты не дзейнічаюць, яны існуюць фармальна. Цэлы месяц вясной цягнуўся пратэст, але Нацыянальны сход маўчаў, дэпутаты рабілі выгляд, што нічога не адбываецца. Афіцыйныя прафсаюзы поўнасцю абдзяржаўленыя, незалежныя прафаб'яднанні — слабыя. Апазіцыя ў Беларусі — пазасістэмная, яна не дапушчаная да ўладных інстытутаў. Дзяржаўныя тэлеканалы займаліся толькі дыскрэдытацыяй пратэстоўцаў. То бок, вынесці праблему на палітычны ўзровень няма каму. Адсутнічае зваротная сувязь паміж грамадствам і ўладай. Зразумела, існуе верагоднасць, што крык вуліцы пачуе кіраўнік Беларусі і неяк адрэагуе. Але не факт. Таму далёкія ад палітыкі абывацелі (а такіх большасць у любой краіне) разважаюць: калі верагоднасць, што цябе пачуюць, невялікая, дык навошта траціць час і энергію на пратэст? Тым больш, што лёгка можна атрымаць дубінкай па галаве, трапіць за краты ці быць звольненым з працы ці навучальнай установы.

Таму большасць шукае індывідуальнае выйсце. Хтосьці едзе на лецішча і там вырошчвае бульбу. Шмат людзей з'язджаюць за мяжу. Дзяржаўны Інстытут сацыялогіі прыводзіць дадзеныя, што да 10% беларусаў шукаюць працу за мяжой. Гэта значыць, столькі людзей не проста мараць (такіх у некалькі разоў больш), а робяць практычныя намаганні, каб з'ехаць за мяжу. Паводле расійскіх крыніц, у РФ цяпер знаходзіцца 676 тысяч працоўных мігрантаў з Беларусі. Гэта складае 7% ад насельніцтва Беларусі. Старшыня прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін прывёў такі прагноз экспертаў: каля 2 мільёнаў актыўных маладых людзей з'едзе з Беларусі ў бліжэйшыя гады. Гэта механізмы выпускання сацыяльнай пары.

Такія супрацьлеглыя чыннікі ўплываюць на беларускае грамадства напрыканцы лета. А восень ужо зусім хутка.

# ДЦП — дыягназ, але не вырак

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**На гэтых дзяцей часта кідаюць касыя позіркі. Для кагосьці яны пажыццёвыя дурні. Для кагосьці — пажыццёва няшчасныя... Але для сваіх бацькоў — заўсёды дарагія і любімыя.**


Ірына Шавардак з дачкой Святланай


Прадуха Ірыны Шавардак — вышываныя карціны

Ірына Шавардак жыве ў Віцебску. Яе дачушцы Святлане дваццаць восем гадоў. Яна нарадзілася з дыягназам «дзіцячы цэрабральны паралюш».

### Траўма ад нараджэння

Калі я знаёмілася са Светай, яна падалася мне сонечнай дзяўчынкай, якая з усёй шчырасцю мне ўсміхаецца. Толькі праз некалькі секунд заўважаеш, што рот у дзяўчыны ненатуральна шырока адкрыты, з яго пастаянна цячэ сліна. А адказ на пытанне «як цябе завуць?» атрымаць складана, бо замест слоў чуеш толькі мармытанне.

Дзіцячы цэрабральны паралюш у Светы ад нараджэння. Падчас родаў на яе галоўцы апынулася ўвагнутасць. Але пра траўму бацькам стала вядома толькі тады, калі чатырохмесячную Свету раптам спаралізавала.

Дзяўчынка трапіла ў рэанімацыю. Дзяжурная доктарка тады сказала Ірыне, што Света наўрад ці выжыве. «Нас пусцілі да Светы. У яе ўжо былі шкляныя вочы. І я зразумела, што яна памірае», — узгадвае Ірына.

Свякроўка Ірыны стала шукаць спосабы, каб ахрысціць Свету. Яна схадзіла ў царкву і запытала, якім чынам гэта можна зрабіць. Святар адказаў ёй, што трэба ўзяць ваду і, молячыся, абмыць дзіця.

«Мы засталіся са свякроўю ўдзвюх у палаце. Я трымала Свету на руках, а свякроў усё рабіла так, як ёй сказаў святар. І на нашых вачах Света стала ажываць», — расказвае Ірына.

Света выжыла. Але траўма, якую яна атрымала пры нараджэнні, засталася з ёю на ўсё жыццё. У дзяўчыны аказаўся зашчэмлены нерв. Праз гэта Света не можа выразна размаўляць, і яе левы бок кепска функцыянуе.

### Вырак на ўсё жыццё

«Я разумела, што хвароба дзіцяці — гэта наш агульны цяжар на ўсё жыццё, — падсумоўвае Ірына. — Мне прапаноўвалі здаць яе ў дом-інтэрнат для інвалідаў. Але я сказала: якая б Света ні была — хворая ці здаровая — я не адмоўлюся ад яе, бо гэта маё дзіцё».

— А ваш муж? — пытаюся ў Ірыны.

— Мне падаецца, што ён любіць Свету больш, чым я, — смяецца Ірына, — калі я часам магу прыкрыкнуць на Свету, то муж сабе такога не дазваляе.

> **Я не магу зразумець тых матуль, якія здаюць дзяцей у дом-інтэрнат для інвалідаў. Я не магу іх і асуджаць, але я перакананая: пройдзе час, і шкадаванне пра зробленае прыйдзе**

Таму, канешне, калі паўстаў выбар, здаваць дзіцё ў інтэрнат ці не, — муж адназначна стаяў на маім баку.

Гадаваць Свету дапамагала бабуля мужа. Сядзелі з дзяўчынкай і бацькі Ірыны. «Дзіцё гадавалі талакой, — кажа жанчына. — Кватэры сваёй у нас, на жаль, не было. Доўга мы стаялі па яе ў чарзе, але ў выніку набылі жыллё сваімі высілкамі».

Нават тады, калі бацькі зразумелі, што такі дыягназ — вырак на ўсё жыццё, яны не сталі здаваца: «Мы рабілі ўсё магчымае для таго, каб Свету можна было падняць». І пачаліся бясконцыя працэдуры: то масаж, то іглаўкалванні...

Хадзіць маленькая Света пачала ў два гады. Дагэтуль яна трымалася за ложак і толькі пераступала з ножкі на ножку.

«Мы доўга займаліся з лагапедам, каб Света змагла загаварыць. І ў нас, я лічу, гэта атрымалася. Новаму чалавеку, канешне, разумець яе складана. Але той, хто доўгі час з ёю стасуецца, разумее», — распавядае Ірына.

### Непадобная да ўсіх

З незразумелымі поглядамі мінакоў на вуліцы Ірына стала сутыкацца амаль адразу. Часта дзеці, пабачыўшы непадобную да іх Свету, цягнулі сваіх матуль за рукавы: маўляў, паглядзі, мама, якая дзяўчынка пайшла.

«Раней я перажывала, што на маё дзіця звяртаецца столькі ўвагі. А пасля супакоілася, напэўна, проста прывыкла», — узгадвае Ірына.

У дзіцячы садок Свету доўга не бралі. Толькі ў шэсць гадоў яе прынялі ў спецыялізаваны садок, дзе ўсе дзеткі былі хворыя. Там яна была год. Замест школы ў Светы было хатняе навучанне на працягу дзевяці гадоў. Сёння Света ходзіць займацца ў мясцовы тэрытарыяльны цэнтр і ў дабрачынную арганізацыю «Карытас».

Маці кажа, што Света добра чытае і піша пад дыктоўку. А яшчэ дзяўчына ведае шмат сталіц розных краін, бо тата любіў з ёй займацца геаграфіяй. Наогул дзеці з ДЦП часам нашмат разумнейшыя і здольныя за дзяцей здаровых.

### Я ні разу не пашкадавала пра свой выбар

— Ці не апускаюцца ў вас часам рукі? — пытаюся ў Ірыны.

— Часам падаецца, што ўсё — больш не магу. Тады адыду кудысьці ўбок і паплачу, — уздыхае жанчына. — Раней так было часта, бо думала: «Чаму менавіта я? Чаму са мной так адбываецца?» А зараз ужо проста прыняла гэта і зразумела, што, значыць, такі ўжо мой лёс.

Прадуху Ірына знайшла ў вышыўцы: у яе кватэры вісіць каля трыццаці вышываных карцін. І выглядае Ірына добра: нельга сказаць, што жанчына ўжо на пенсіі.

«Шчыра кажучы, на сябе трачу няшмат часу і ўвагі. Але намагаемся больш гуляць і вандраваць са Светай. Калі кудысьці выязджаеш, то робіш гэта дзеля дзіцяці. Стараешся рабіць усё дзеля таго, каб яна адчувала сябе такой, як усе».

— А калі б дваццаць восем гадоў таму вы б адмовіліся ад Светы?

— Я не магу зразумець тых матуль, якія здаюць дзяцей у дом-інтэрнат для інвалідаў. Я не магу іх і асуджаць, бо жыццёвыя сітуацыі бываюць розныя. Але ў адным я перакананая дакладна: пройдзе час, і шкадаванне пра зробленае прыйдзе. І я, шчыра кажучы, не ведаю, ці магчыма наогул гэтае пачуццё калісьці заглушыць.

***

На працягу ўсёй нашай гутаркі з Ірынай, Света ківала галавой і ўважліва слухала. Мне стала зразумела, што, размаўляючы з ёй, я магу не падбіраць словы і не спрошчваць сказы — яна развітая інтэлектуальна гэтак жа, як і я. І, магчыма, Света з яе сонечнай усмешкай яшчэ не аднаму чалавеку зруйнуе стэрэатыпы пра тое, што людзі з ДЦП — непаўнавартасныя.

**Для даведкі:**

Дзіцячы цэрабральны паралюш (ДЦП) — гэта захворванне нервовай сістэмы, якое часта прыводзіць да інваліднасці дзіцяці. Цэрабральны паралюш з'яўляецца другім з найбольш распаўсюджаных неўралагічных парушэнняў у дзяцінстве. На першым месцы — затрымка псіхічнага развіцця. Дзіцячы цэрабральны паралюш праяўляецца ў выглядзе розных рухальных, псіхічных і маўленчых парушэнняў.

Сярод дзяцей з нармальнай вагой пры нараджэнні, якія сталі інвалідамі ў сувязі з ДЦП, прыкладна 70% сталі інвалідамі з прычыны фактараў, якія мелі месца да нараджэння, каля 20% — дзякуючы фактарам, якія выявіліся альбо падчас родаў, альбо адразу пасля іх, 10% — з прычыны фактараў, якія выявіліся на працягу першых двух гадоў жыцця. У 65–85% хворых на цэрабральны паралюш маюцца розныя маўленчыя парушэнні, сярод якіх найбольш часта сустракаюцца затрымка маўленчага развіцця або парушэнне маўлення.

Пры цяжкай ступені хваробы дзіця не можа хадзіць і рухацца, самастойна сябе абслугоўваць. Пры сярэдняй ступені рухальных парушэнняў дзеці могуць хадзіць, але рухаюцца няўпэўнена, часта з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў. Яны не ў стане самастойна перасоўвацца па горадзе, ездзіць на транспарце. Навыкі самаабслугоўвання ў іх развітыя не цалкам. Пры лёгкай ступені рухальных парушэнняў дзеці ходзяць самастойна, упэўнена, як у памяшканні, так і за яго межамі. Яны могуць самастойна ездзіць на гарадскім транспарце і цалкам сябе абслугоўваць. Аднак у хворых могуць назірацца няправільныя паталагічныя пастаўы і парушэнні хады, запаволеныя рухі.

# «Магутны Божа», «Маладая

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Якім мог быць гімн незалежнай Беларусі? Варыянтаў было мноства, але ў выніку мы фактычна засталіся са старым савецкім гімнам, толькі з новымі словамі.**

**Працяг. Пачатак у № 31**

## Тур другі, але не апошні

Конкурс было вырашана працягнуць. 9 студзеня 1993 года ў папулярнай «Народнай газеце» была надрукавана нататка «Конкурс працягваецца». Праўда, зараз, гаварылася ў «Народнай газеце», усе намаганні будуць накіраваныя на выяўленне паэтычнага тэксту, «які б адпавядаў па сваіх мастацкіх якасцях тым высокім патрабаванням, што неабходныя для гімна незалежнай дзяржавы». Свае тэксты на адрас сакратаркі журы **Эльвіры Алейнікавай** усе жадаючыя маглі дасылаць да 1 сакавіка 1993 года.

Як і раней, публікацыя ў вядучай газеце краіны пра працяг конкурсу ўзрушыла грамадства. Некаторыя «энтузіясты» на вуліцах падыходзілі да людзей і жадалі «ўвапхнуць» свой гімн. Пра гэта, у прыватнасці, пісаў у «Літаратуры і мастацтве» **Юрый Станкевіч.** Журы было літаральна завалена лістамі. У адных былі проста прапановы, у другіх — уласныя творы рознага ўзроўню паэтычнай якасці (каля 200 варыянтаў).

Так, ананімны аўтар, *«не стар и не млад, а 1921 года рождения, 5 классов образования»* з г.п. Кастрычніцкі Гомельскай вобласці ў лісце ад 12 студзеня 1993 года прапанаваў у якасці гімна «Паланез» Агінскага, а тэкст да яго раіў падабраць з вершаў **Максіма Багдановіча.** *«Можно взять еще и "Варшавянку",* — працягваў чытач, — *и музыка и текст сильны».* А каб гімн быў весялейшы, можна звярнуцца да маршу авіятараў: *«Мы рождены, чтоб сказку сделать былью...».*

Прапанова пра «Паланез» і раней мела месца, у прыватнасці з боку рады Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак». Беларускае згуртаванне вайскоўцаў ужо карысталася гэтым творам у час публічнага прыняцця сябрамі БЗВ сімвалічнай вайсковай прысягі на вернасць Беларусі, якая адбылася 8 верасня 1992 года на плошчы Незалежнасці.

Але не ўсе былі ў захапленні ад Агінскага. Напрыклад, працоўны Мінскага трактарнага завода **Генадзь Санкоўскі** абураўся: *«Почему предлагают Огинского, почему сразу не "Лявоніху"»?*

У выніку разгляду журы абрала 117 паэтычных твораў (без персанальных звестак і дэвізаў). У гэтых творах, як і на папярэднім этапе, яскрава праявілася тэндэнцыя гераізацыі гісторыі Беларусі, асабліва эпохі Сярэднявечча, сакралізацыя велічных постацяў і сімвалаў: герба «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга. Каб ацаніць іх мастацкія

Песні, якія маглі б стаць беларускімі гімнамі:

1. Мы выйдзем шчыльнымі радамі
2. А хто там ідзе?
3. Багародзіца
4. Магутны Божа
5. Адвеку мы спалі
6. Не загаснуць зоркі ў небе
7. Маладая Беларусь
8. Пагоня

вартасці, трэба прывесці некалькі прыкладаў з урыўкамі.

Адзін з твораў, напрыклад, пачынаўся так:

*Тост падымем — не асудзіць публіка —*
*Мы за бел-чырвона-белы сцяг.*
*Наша суверэнная рэспубліка*
*Узрасла на лаўрах і касцях.*

Шмат тэкстаў пачыналася са слоў «Мы, беларусы»: «Мы, беларусы — вольныя людзі», «Мы, беларусы — Богам прызнаны», «Мы, белорусы, взявшись за руки», «Мы, белорусы — свабодныя людзі».

У адным з твораў былі такія радкі:

*Усе беларускія землі ўз'яднаем і выйдзем да мора*
*За матчыну мову, за беларускія школы.*
*Парваўшы кайданы расійцаў і ляхаў*
*Мы шчасце збудуем з працоўным размахам.*

Захаваўся верш, у якім быў заклік да беларусаў не быць манкуртамі і жаданне, каб да ўлады прыйшоў «Народны фронт нацыянал-дэмакратаў». У іншых вершах мела месца згадка нацыянальнага героя **Кастуся Каліноўскага:**

*Ты, чырвоная каліна,*
*Беларусь — мая краіна.*
*Прымі ты сыноўю любоў.*
*Цвіцеш ты вясною,*
*Ірдзееш увосень*
*Як Каліноўскага кроў...*

Альбо:

*Нас вёў Каліноўскі, Талаш і Даватар*
*Змагацца за шчасце зямлі,*
*Каб мы былі роднай рэспубліке варты*
*І каб заваёў не здалі.*

Варыянтаў гімнаў, дзе выкарыстоўвалася савецкая спадчына, за рэдкім выключэннем, не было. Захаваўся літаральна адзін тэкст, пабудаваны на тэме Вялікай Айчыннай вайны: *«Не ўявіць партызанка, цябе, без лясных генералаў і трох Беларускіх франтоў, што ішлі на Берлін па сівому курганню руін».*

У абсалютнай большасці прадстаўленых варыянтаў гімнаў (як і раней), адсутнічаў важкі ідэалагічны элемент, які панаваў у гімне БССР — сяброўства з Расіяй.

Можна прывесці прыклад варыянту гімна на рускай мове (таксама вельмі рэдкае выключэнне, таму што ўсе амаль усе тэксты падаваліся па-беларуску), дзе ўсё ж згадваецца Расія:

*С Россией вечно жить стремилась,*
*В битву на Куликово поле послала*
*Андрея Полоцкого — князя боевого*
*Братство защитить на вечные года.*
*Республика моя родная,*
*Ты по праву партизанкою стала,*
*Под Игуменем с вилами, топорами французов добивала*
*С русскими войсками*
*Полоцк штурмом брала.*

Як і раней, пэўная частка тэкстаў уяўляла сабой банальныя паэтычныя сентэнцыі, якія і блізка не маглі прэтэндаваць на гімн. Напрыклад, можна здзіўляцца, на якой падставе журы нават на папярэднім этапе ўхваліла такі рускамоўны тэкст:

*Строим фабрики, заводы*
*Нефтевышки и метро,*
*Жить свободному народу*
*Не мешай никто.*
*Зреют яблоки и сливы,*
*Много ягод и грибов*
*Я влюблен в тебя счасливый,*
*У нас взаимная любовь!*



## Тварам да Купалы

Пра тое, што праца над тэкстамі шматлікіх аўтараў (ведомыя, у тым ліку і народныя паэты амаль цалкам адмовіліся ад удзелу, а **Ніл Гілевіч** у інтэрв'ю выданню «Наша слова» ў маі 1994 года назваў гэта незразумелым) не дала ніякіх вынікаў, сведчыў зварот журы конкурсу, які быў надрукаваны ў цэнтральных выданнях 19 кастрычніка 1993 года. Старшыня журы **Ніл Гілевіч** паведаміў грамадскасці, што яны спынілі свой выбар на вершы **Янкі Купалы** «Маладая Беларусь» («Вольны вецер напеў вольных песень табе»).

Улічваючы, што верш даволі вялікі па аб'еме, гаварылася ў звароце, журы вырашыла абмежавацца чатырма строфамі з дванаццаці. Заключныя радкі верша («Паднімайся з нізін сакаліна сям'я...») павінны былі стаць прыпевам. **Ніл Гілевіч** выказаў упэўненасць, што выбар журы слушны, бо ў гэтым вершы, сцвярджаў народны паэт, закладзена ідэя дзяржаўнага адраджэння Беларусі, «скандэнсавана сурова-драматычная» яе гісторыя.

У сувязі з гэтым абвяшчаўся конкурс на напісанне музыкі да тэксту верша ў варыянце камісіі. Дасылаць творы да 15 лістапада зноў маглі ўсе жадаючыя.

У згаданым вышэй інтэрв'ю «Нашаму слову» **Ніл Гілевіч** распавёў цікавыя нюансы абрання верша **Купалы** ў якасці тэкстуальнай асновы гімна, і быў больш стрыманым. Народны паэт паведаміў, што менавіта заключныя радкі верша канчаткова схілілі журы, аднак у цэлым да самога тэксту маюцца пытанні стылёвага і іншага характару.

Ніл Гілевіч меў рацыю. Ужо 28 кастрычніка 1993 года чальцы аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў Акадэміі навук накіравалі ў журы ліст, дзе выказаліся супраць гімна на твор Купалы. На іх думку, верш залішне метафарычны, мае вялікі аб'ём, а выбар для гімна яго асобнай часткі выглядае штучна. Акрамя таго, у «Маладой Беларусі» маюцца асобныя русізмы.

Старшыня журы паведаміў, што на конкурс былі пададзены 28 твораў прафесійных кампазітараў і каля 60 — самадзейных аўтараў. Сярод апошніх варта адзначыць **Валерыя Марцінкевіча** з Ганцавіч, **Барыса Магаліфа** (папярэджваў камісію, што свае ноты «будет отстаивать до конца») з Мінска, **Мікалая Мамчыца** з в. Салтанаўшчына Нясвіжскага раёна. Апошні быў упэўнены, што стварыў «лёгкі, гучны і запамінальны гімн». На думку **Мамчыца,** «сталінскія і гітлераўскія маршы ўжо даўно адышлі ў гісторыю».

Пятнаццацігадовая **Наталля Мазейка ў** лісце ад 14 лістапада 1993 года пісала, што навучаецца ў музычнай школе і таксама жадае прыняць удзел у конкурсе. Хутчэй за ўсё, гэта была дэкларацыя аб намерах, бо ў архіве нічога няма наконт гэтай дзяўчынкі. А **Аляксандр Клімец** з Брэста прапанаваў кампутарную праграму для стварэння гімна на мове «Бэйсік». Калі ўвесці, сцвярджаў **Клімец,** праграму у кампутар тыпу ZX-Spectrum, то «вы пачуеце мелодыю гімна».

Самадзейныя аўтары не змаглі скласці рэальную канкурэнцыю прафесіяналам кампазітарам, з якіх журы выбрала трох: мэтра і легенду **Анатоля Багатырова, Уладзіміра Дарохіна** і **Віктара Войціка.** Хто з іх павінен быў увайсці ў гісторыю Беларусі ў якасці стваральніка музыкі да гімна, вырашала пасяджэнне журы 6 мая 1994 года.

На ім прысутнічалі 15 чалавек, у тым ліку, у якасці чальца, **Уладзімір Дарохін.** Пасля ўступнага слова **Ніла Гілевіча,** які заявіў, што факт удзелу ў конкурсе **Анатоля Багатырова** — асабістага знаёмага **Янкі Купалы,** мае сімвалічнае значэнне, пачаліся дыскусіі. Тон задала **Вольга Іпатава,** якая не заўважыла асаблівай розніцы ў трох творах, а таму параіла вярнуцца да "Ваяцкага маршу". Яе падтрымаў **Антоль Вярцінскі.**

Аднак астатнія чальцы журы былі супраць. Так, **Галіна Куляшова,** як сведчыць пратакол пасяджэння, «тактоўна і прафесійна адмовіла мастацкім якасцям "Ваяцкага маршу", зазначыўшы, што паняцці "мастацкая якасць" і "гістарычная якасць" не заўсёды супадаюць». Пры гэтым спадарыня **Куляшова** заўважыла,

# Беларусь» і «Паланез» Агінскага

што «па выніках абмеркавання і сацыялагічных апытанняў “Магутны Божа” займаў больш высокае месца», бо «духоўнасць, сціплае хараство напеву і слоў ужо даўно набілі шырокую папулярнасць сярод насельніцтва, прычым сярод розных сацыяльных груп і розных канфесій». Гэтыя словы **Галіны Куляшовай,** доктара мастацтвазнаўства і прафесара разбураюць міф, запушчаны прапагандай пасля прыходу да ўлады **Аляксандра Лукашэнкі**, пра тое, нібыта верш **Наталлі Арсенневай** беларускі народ не ўспрымае, а тым больш, у якасці гімна.

Пасля спрэчак была створана Падліковая камісія па галасаванні ў складзе **Эльвіры Алейнікавай** і **Уладзіміра Някляева.** У тэксце пратакола адсутнічаюць дакладныя лічбы, але зафіксавана, што большасць чальцоў журы бюлетэнямі падтрымала твор **Анатоля Багатырова.**

22 чэрвеня 1994 года міністр культуры і друку **Анатоль Бутэвіч** накіраваў старшыні Вярхоўнага Савета **Мечыславу Грыбу** ліст: разгледзець на сесіі парламента пытанне аб зацвярджэнні ў якасці Дзяржаўнага гімна твор **Анатоля Багатырова** на верш **Янкі Купалы,** а таксама зрабіць якасны радыёзапіс і арганізаваць яго праслухоўванне.

11 ліпеня 1994 года **Ніл Гілевіч** накіраваў свой ліст **Мечыславу Грыбу.** З ліста відаць, што сімпатыі народнага паэта да верша **Купалы** яўна зменшыліся: **Гілевіч** заклікаў кіраўніка парламента даць праслухаць не толькі новы варыянт гімна **Багатырова-Купалы,** але і іншыя варыянты. Калі грамадскасць не пагодзіцца, пісаў **Ніл Сымонавіч,** то працягнем працу, нічога страшнага ў такой «гімнічнай» сітуацыі няма: «Лепш папрацаваць не спяшаючыся, чым прыняць гімн не зусім удалы».

### Гімн — народны!

Яшчэ адна эпапея, звязаная з гімнам, пачалася 6 ліпеня 1994 года. Выданне «Наша слова» надрукавала верш «Жыве Беларусь» мінчаніна **Уладзіслава Жыгалкі** да музыкі **Нестара Сакалоўскага.** Адзначыўшы добрую якасць музыкі («не яе віна, што ёй карысталіся ў савецкі час»), **Жыгалка** адмовіўся ад уласнага аўтарства і заклікаў усіх жадаючых агульнымі намаганнямі ўдасканаліць верш.

*Жыве Беларусь!*

*Мы — беларусы!*
*Вольныя людзі —*
*Вольным заўсёды будзе наш шлях!*
*Сімвал Свабоды — Сцяг Беларусі,*
*Бела-Чырвона-Белы наш сцяг!*

*Прыпеў:*

*Хай жа ніколі ён не загіне!*
*Бог захавае Белую Русь!*
*Наша адданасць — вольнай Радзіме*
*Хай жа заўсёды Жыве Беларусь!*

*Працу народа, моц і Свабоду —*
*Годнасць гартуе, з году ў год…*
*Веліч Радзімы — мужнасць народу;*
*Люд Беларусі — слаўны народ…*

*Прыпеў.*

*Край наш багаты, шчодры, дзівосны:*
*Рэкі павольныя, светлыя тут;*
*Мірна гамоняць бярозы ды сосны…*
*Цешце, нашчадкі, родны наш кут!*

*Прыпеў.*




Паштоўка ў падтрымку гімна пад дэвізам «О, фортуна!». Такія стандартныя паштоўкі дасылаліся на карысць астатніх варыянтаў гімна

Ідэя была падхоплена рэдакцыяй, якая дала на гэту працу два месяцы, папярэдзіўшы, каб чытачы не дасылалі новых тэкстаў. Газета абяцала, што канчатковы тэкст будзе накіраваны ў камісію Ніла Гілевіча.

Пачынанне **Жыгалкі** зацікавіла шматлікіх чытачоў, якія дасылалі ўласныя варыянты на аснове папярэдняга тэксту: **Мікалай Валошчык, Осіп Рагонька, Мікалай Грыман** і іншыя. Напрыклад, замест сказа «Цешце, нашчадкі, родны наш кут» адзін з чытачоў прапанаваў: «Людзі, любіце ж родны наш кут».

Па некаторых пытаннях разгараліся цэлыя дыскусіі. Напрыклад, **Канстанцін Міхайлаў** з Оршы і **Алесь Крэмень** са Скідаля выказаліся супраць таго, каб у гімне гучала «Белая Русь». Яны ўзгадае, што існуе Славянскі сабор «Белая Русь», які варожа ставіцца да ўсяго беларускага. Некаторыя выступалі супраць таго, каб у гімне фігураваў Бог.

28 снежня 1994 года «Наша слова» надрукавала канчатковы варыянт «народнага» гімна.

*Жыве Беларусь!*

*Мы — беларусы!*
*Вольныя людзі —*
*Вольным заўсёды будзе наш шлях!*
*Нас акрыляе сімвал Радзімы*
*Бела-чырвона-белы наш Сцяг!*

*Прыпеў:*

*Разам ніколі мы не загінем,*
*З Богам сустрэнем шчасця зару,*
*Наша адданасць — вольнай Радзіме*
*Хай жа заўсёды жыве Беларусь!*

*Цяжкая праца нас узмацняе,*
*Мужнасць гартуе, з году ў год.*
*Веліч Радзімы — мужнасць народа,*
*Мы, беларусы — слаўны народ.*

*Прыпеў.*

*Край наш багаты, шчодры, дзівосны:*
*Рэкі павольныя, чыстыя тут;*
*Мірна гамоняць бярозы ды сосны.*
*Слаўце, нашчадкі, родны наш кут!*

*Прыпеў.*

**У якасці новага варыянта гімна Ніл Гілевіч прапанаваў узяць «Магутны Божа» Наталлі Арсенневай. Чалец камісіі Леанід Баршчэўскі заявіў, што няма ніякіх іншых варыянтаў**




Не ўсе падзялялі аптымізм з нагоды новага гімна. Адзін з чытачоў параіў аўтарам гімнаў звярнуцца да... псіхіятра

Невядома, ці быў адасланы гэты тэкст да **Ніла Гілевіча.** Ва ўсялякім разе ў пратаколах пасяджэння камісіі да 20 красавіка 1995 года пра «народны гімн» нічога не гаворыцца.

### Таго, хто не цікавіцца палітыкай...

Перад тым, як адказаць на пытанне, што здарылася 20 красавіка 1995 года, трэба папярэдне адзначыць: Вярхоўны Савет 12 склікання не толькі не зацвердзіў новы Дзяржаўны гімн, але нават не ўнасіў гэта пытанне ў парадак дня. Чаму? Першыя прэзідэнцкія выбары і прыход **Аляксандра Лукашэнкі** да ўлады, супрацьстаянне новага кіраўніка дзяржавы з парламентам, даклад **Сяргея Антончыка** і іншыя падзеі напалілі атмасферу: стала не да гімна. А тут яшчэ **Лукашэнка** ініцыяваў рэферэндум, два пытанні якога тычыліся змены сімволікі і надання рускай мове статусу дзяржаўнай.

13 красавіка 1995 года — пасля гвалтоўнай «эвакуацыі» з залі парламента (у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года) галадаючых супраць правядзення плебісцыту прадстаўнікоў Беларускага народнага фронту і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады — Вярхоўны Савет пад ціскам **Лукашэнкі** зацвердзіў усе чатыры пытанні.

У сувязі з гэтым камісія **Гілевіча** сабралася на пасяджэнне 20 красавіка 1995 года (колькасць прысутных у пратаколе не пазначана). Асудзіўшы рэферэндум, чальцы камісіі вырашылі пытанне з гімнам. Старшыня камісіі заўважыў, што музыка **Анатоля Багатырова** на верш **Янкі Купалы** добрая, аднак тэкст настолькі складаны, што яго ніхто не можа запомніць. У якасці новага варыянта гімна **Ніл Гілевіч** прапанаваў узяць «Магутны Божа» **Наталлі Арсенневай.** Чалец камісіі **Леанід Баршчэўскі** заявіў, што няма ніякіх іншых варыянтаў.

У выніку было прынята наступнае рашэнне: 1) Лічыць, што для Дзяржаўнага гімна найбольш падыходзіць песня **Мікалая Равенскага** на словы **Наталлі Арсенневай** «Магутны Божа»; 2) Прасіць Кабінет Міністраў забяспечыць штодзённую трохмесячную трансляцыю песні для азнаямлення па радыё і тэлебачанні ў зручны для слухачоў і гледачоў час; 3) Унесці пытанне аб новым Дзяржаўным гімне на наступную сесію Вярхоўнага Савета.

Ці магчыма было здзейсніць такое рашэнне пры **Лукашэнку?** Канешне, не. У варыянтаў гімнаў патрыятычна-гістарычнай накіраванасці з памінаннем, напрыклад, Грунвальда альбо бел-чырвона-белага сцяга не было ніякіх шанцаў.

Больш таго, 13 мая 1995 года, за дзень да рэферэндуму, у газеце «Советская Белоруссия» пад рубрыкай «Кощунство» быў апублікаваны артыкул **Аляксандра Брожскага** і **Уладзіміра Падгаенскага** «Там ли мы ищем автора гимна?». Аўтары сцвярджалі, што гэта павінен быць чалавек, «безупречный во всех отношениях», чаго нельга сказаць пра **Арсенневу.** Публікуючы архіўныя дакументы (без спасылка на крыніцы), **Брожскі** і **Падгаенскі** з паэткі літаральна зляпілі монстра, якая нібыта давала паказанні супраць партызана **Канстанціна Немчыка,** забіўшага ў лістападзе 1943 года рэдактара калабаранцкай «Беларускай газеты». «Можем ли мы, — пыталіся аўтары, — с благоговением и замиранием сердца внимать гимну, который написан рукой женщины, ласкавшей убийцу-эсэсовца и писавшей статьи в газету, которая вдохновляла людоедов».

З такім жа поспехам можна было б прыпісаць словы камуністычнага правадыра **Уладзіміра Леніна** аб неабходнасці тэрору і абвясціць яго забойцам і злачынцам.

Як бы ні было, публікацыя стала своеасаблівай вяхой у гісторыі падрыхтоўкі гімна, ідэалагічны сцяжок якога развярнуўся на 180 градусаў. Цяпер слова было за новай уладай.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Беларусы выратавалі Керанскага

26 жніўня споўнілася сто гадоў спробе дзяржаўнага перавароту ў Расіі, які арганізаваў генерал Карнілаў. Тады Карнілаў быў галоўнакамандуючым арміі, і яго стаўка знаходзілася ў Магілёве. Карнілаў адмовіўся падпарадкавацца Керанскаму і накіраваў на Петраград кавалерыйскі корпус генерала Крымава. У межах дэбатаў наконт юбілею ледзь не ўпершыню адзначылі ролю Саветаў рабочых і салдат, якія паўсталі ў Беларусі пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Як пішуць гісторыкі, менавіта пагроза таго, што беларускія Саветы заблакуюць удзел франтавых частак у выступе, прымусіла Карнілава ўтрымацца ад больш паўнамаштабных акцый. Дзякуючы гэтаму часовы ўрад Керанскага быў выратаваны — корпус спынены, а сам Карнілаў арыштаваны. Сярод іншых цікавых тэзісаў у дыскусіі вакол юбілею ГКЧП Карнілава варта ўзгадаць тэму феномену вайсковых пераваротаў у расійскай гісторыі. Эксперты адзначаюць, што вайсковыя змовы ў такой аўтарытарнай краіне, як Расія, заўжды былі ледзь не адзіным сродкам змены ўлады.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Новы імідж Цімашэнка



Уся Украіна абмяркоўвае новы імідж Юліі Цімашэнка, які быў прадэманстраваны 25 жніўня ў кулуарах Сусветнага кангрэса ўкраінцаў. Лідарка партыі «Бацькаўшчына» з'явілася на мерапрыемства ў чырвонай сукенцы па фігуры, пантофлях на высокіх абцасах і з новай прычоскай — прыбраныя за вушы прамыя валасы. Гэта ўжо трэці вобраз Юліі за час палітычнай кар'еры. Спачатку яна — шатэнка з карэ, пачала заплятаць касу, якая стала сапраўдным брэндам. Пасля раптам трансфармавалася ў «настаўніцу» — акуляры плюс распушчаныя пафарбаваныя валасы. І вось зноў перамена. У прынцыпе, большасць каментатараў успрыняла новы стыль пазітыўна, паколькі цяпер 56-гадовая Цімашэнка больш нагадвае звычайную ўкраінку сярэдняга ўзросту, што сведчыць пра яе блізкасць да народу. Застаецца дадаць, што «новая Юля» таксама трошкі падобная да Дэйнэрыс — гераіні папулярнага серыялу «Гульні тронаў», якая, па сюжэце, кіруе драконамі. Адсюль і новая мянушка Цімашэнка — Маці Драконаў. Праўда, Цімашэнка можа яшчэ перадумаць. Прыкладна ўвесну яна спрабавала хадзіць у вайсковым камуфляжы, аднак пасля адмовілася ад ідэі праз кпіны ў соцсеціве.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Сухі закон падчас гульняў

Улады Туркменістана заявілі пра ўвядзенне сухога закона да заканчэння Азіяцкіх гульняў у памяшканнях. Забарона працягнецца да пачатку кастрычніка (спаборніцтвы будуць праходзіць 17–27 верасня). Рэакцыя грамадзян агулам была чаканая. Пачуўшы навіну, туркмены ў паніцы кінуліся да аптовых гандляроў, якія звычайна захоўваюць на складах вялікую колькасць алкагольнай прадукцыі. Пакупнікі бралі столькі піва і іншага алкаголю, колькі маглі перанесці. Гандляры, у сваю чаргу, адчуваючы, што ў перыяд сухога закона могуць пазбавіцца значных даходаў, з радасцю прадалі ўсё, што ў іх было. Алкагольны ажыятаж наглядна падарваў папулярны ў афіцыёзе вобраз туркмена, які вядзе здаровы лад жыцця. Будзе дарэчным узгадаць, што вясной 2012-га ў краіне таксама забаранілі алкаголь. Тады ўсё скончылася бумам нелегальнага гандлю, і забарону хутка адмянілі.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ФРГ. Рэформа прыбіральняў

Бургамістр Кёльна падтрымаў незвычайную рэформу, якая тычыцца гарадскіх прыбіральняў. Тыя ўстановы, па словах прадстаўніка мэрыі, павінны быць перабудаваныя такім чынам, каб кліенты — мігранты з ісламскіх краінаў — не адчувалі дыскамфорту. Дыскамфорт у такога кшталту наведвальнікаў, быццам бы, выклікае адсутнасць у прыбіральнях вадзянога шланга — абавязковага атрыбуту клазетаў на Усходзе, дзе не карыстаюцца туалетнай паперай. Самае цікавае, што прыбіральні ў Кёльне будуць перабудаваныя такім чынам, каб там не спраўлялі натуральную патрэбу ў накірунку Меккі — святога для мусульман гораду. Калі верыць бургамістру, інавацыі выклікаюць у звычайных немцаў інтарэс да замежных культураў. Між тым, у ідэі хапае апанентаў. У правай апазіцыі падлічылі, што перабудова кожнага ўнітазу — каля ста еўра. З улікам колькасці прыбіральняў у публічных і камерцыйных установах, рэформа будзе каштаваць больш за мільён еўра — значныя выдаткі для гарадскога бюджэту.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Адрадзіць Канфедэрацыю

Алег НОВІКАЎ

**Вайна вакол помнікаў удзельнікам Грамадзянскай вайны ў ЗША рэанімавала цікавасць да праектаў адраджэння Канфедэрацыі Штатаў Амерыкі (CSA) — так называлася рабаўладальніцкая дзяржава Поўдня.**



Фота www.stltoday.com

Каб зразумець прычыну таго, што ў ЗША дасюль хапае дзівакоў, якія носяцца з праектам CSA, дастаткова пераглядзець славутую экранізацыю «Знесеных ветрам». Фільм пачынаецца з закадравага тэксту: «Была калісьці на свеце краіна майстэрскіх наезнікаў і бавоўняных палёў. Называлася яна Старым Поўднем. Там у дзівосных кутках застыла ў развітальным паклоне сама галантнасць. Там жылі адважныя рыцары і прыгожыя дамы…».

Менавіта такі ідэалістычны вобраз Поўдня напярэдадні Грамадзянскай вайны склаўся ў значнай частцы белых амерыканцаў. Усё дзякуючы папулярнасці ў грамадскай думцы рэвізіяніцкай канцэпцыі Lost Cause (Страчаная справа), што паўстала на пачатку мінулага стагоддзя. Паводле аўтараў ідэі Lost Cause, паўднёвыя штаты сталі ахвярай Поўначы, якая не прабачыла тубыльцам іх арыстакратычны лад жыцця. Цікава, што ў свой час у рух Lost Cause ахвотна ўключаліся некаторыя феміністкі. На прыкладзе жанчын з Поўдня, якія падчас вайны ў тыле бралі на сябе функцыі мужчын, яны даводзілі права на гендэрную роўнасць.

І, натуральна, выключна ідэалізацыяй мінулага справа не абмежавалася. Калі ў Канфедэрацыі было ўсе так файна, паўстае лагічнае пытанне: чаму б яе ні адрадзіць? Заклік адрадзіць Канфедэрацыю цяпер можна сустрэць у маніфестах шматлікіх правых арганізацый ЗША. На іх інтэрнэт-старонках можна нават пабачыць мапы будучай дзяржавы, якая цягнецца ад мяжы з Каліфорніяй да Атлантыкі. Некаторыя арганізацыі ўжо зараз надаюць сваім актывістам тытулы генералаў арміі новай Канфедэрацыі.

Што можа атрымацца, калі мары так іх людзей здзейсняцца? Часткова адказ на гэта пытанне дае псеўдадакументальны фільм «Канфедэратыўныя Штаты Амерыкі» (C.S.A.: The Confederate States of America), што выйшаў на экраны ў 2004 годзе. У фільме, знятым у стылі альтэрнатыўнай гісторыі, паказаная Амерыка, у якой Канфедэрацыя атрымала перамогу ў Грамадзянскай вайне.

Як бы выглядала ў такім разе Амерыка? На думку стваральнікаў стужкі, магла б захавацца рабаўладальніцкая сістэма (гэта толькі дапамагае эканоміці, паколькі ў выпадку крызісу заўжды можна прымусіць рабоў працаваць больш). У канфедэратыўнай Амерыцы працавалі б законы расавай чысціні, паводле якіх кожны чыноўнік павінен быў прайсці праверку на адсутнасць афрыканскай крыві.

**Тэму рабства аматары CSA намагаюцца не чапаць. На першае месца ў іх прапагандзе выходзіць патрабаванне аўтаноміі рэгіёнаў у галіне культурнай ды ў фіскальнай палітыцы**

Парушальнікаў чакала б жудаснае пакаранне. Аўтары фільму мадэлююць скандал, калі адзін з найбуйнейшых палітыкаў-кансерватараў быццам бы апынуўся пад падазрэннем — у яго крыві знайшлі нейкі адсотак крыві рабыні, што належала яго прадзеду. І хоць палітык заяўляў, што яго прадзед «не меў сэксуальных зносін з гэтай жанчынай», тое не выратавала яго ад паразы на выбарах і вымушанага акту суіцыду.

Самі «канфедэратаманы» ўспрынялі прадукцыю рэжысёра стужкі Кевіна Уілмата як брудную пародыю на іх ідэал. Гледзячы па іх тэкстах, аднаўляць рабаўладанне яны не збіраюцца і гатовыя задаволіцца вяртаннем да часоў сегрэгацыі — практыкі абмежавання грамадзянскіх правоў афраамерыканцаў, што дзейнічала прыкладна да часоў прэзідэнцтва Джона Кенэдзі.

Увогуле, тэму рабства аматары CSA намагаюцца не чапаць. На першае месца ў іх прапагандзе выходзіць патрабаванне шырокай аўтаноміі рэгіёнаў у галіне культурнай ды ў фіскальнай палітыцы. Такі падыход дазваляе разглядаць аматараў Канфедэрацыі як адну з фракцый кансерватыўнага руху ў Злучаных Штатах, якая заўжды выступала супраць дыктату федэральнага цэнтру.

Натуральна, узнікае пытанне: якім чынам аднавіць тую Канфедэрацыю? Нават самыя вялікія фанатыкі Канфедэрацыі пагаджаюцца, што прававым шляхам рэанімаваць былую дзяржаву немагчыма. Цяжка ўявіць, каб нейкі федэральны ўрад дазволіў рымейк падзей студзеня 1860-га года, калі ўсяго за два тыдні кангрэсы пяці штатаў прынялі пастановы аб выхадзе са складу Саюзу.

Немагчымы і фармат нейкага пераможнага паўстання. Таму на інфармацыйных рэсурсах праварадыкалы заклікаюць рабіць стаўку на папулярызацыю паўднёвага ладу жыцця, што грунтуецца на кансерватыўных каштоўнасцях накшталт забароны гей-шлюбаў. Паводле разлікаў аматараў гэтай стратэгіі, у перспектыве такія забабоны будзе вызнаваць і палітычная эліта. Паспяховым прыкладам можа быць нядаўняя ініцыятыва аднаго з парламентароў Фларыды афіцыйна адзначаць дзень памяці жаўнераў Канфедэрацыі, якія загінулі ў вайне з Паўночнымі штатамі.

Ёсць іншая думка, адэпты якой заклікаюць кінуць усе намаганні на падтрымку сепаратысцкіх рухаў у Тэхасе і Каліфорніі. Калі гэтыя вельмі буйныя штаты дамогуцца незалежнасці, паўстане прэцэдэнт, якім могуць скарыстацца паўднёвыя тэрыторыі. Нарэшце, у кантэксце апошніх падзей з'явіўся прагноз, паводле якога Трамп у хуткім часе збяжыць з Вашынгтону, дзе яго ўсе ненавідзяць, каб стварыць нейкі свой урад на лаяльным яму Поўдні. Пачнецца супрацьстаянне перыферыі з цэнтрам, што, мауляў, і будзе прапогам рэстаўрацыі Канфедэрацыі.

Усё гэтыя сцэнары пакуль гучаць як фантастыка. Тым не менш нейкія спробы актуалізаваць ідэю Канфедэрацыі ў палітычным хаосе, што сёння назіраецца ў Злучаных Штатах, напэўна, магчымыя.

# Апошняя рэпетыцыя Пуціна

Алег НОВІКАЎ

**У Расіі 10 верасня пройдуць выбары рознага ўзроўню, якія ўсе палітсілы разглядаюць як апошнюю рэпетыцыю перад прэзідэнцкай кампаніяй 2018 года. Пра асаблівасці выбарчай гонкі распавядае піцерскі эколаг Ганна Раманенка.**



Фота www.kazanfirst.ru

***— 10 верасня будуць абіраць дэпутатаў рэгіянальных, мясцовых парламентаў, кіраўнікоў рэгіёнаў. У якім рэгіёне самая высокая палітычная тэмпература?***

— Трэба прызнаць, што кампанія мала цікавіць выбаршчыка, перш за ўсё з улікам таго, што яна прыйшлася на сезон адпачынкаў. Медыя яе таксама ігнаравалі. Хіба што іх увагу прыцягнуў выпадак, калі адзін з кандыдатаў ад Кампартыі, як высветлілася, здымаўся ў порнастужках. Падставаў для электаральнай апатыі вельмі шмат. І, дарэчы, не апошнюю ролю тут адыграў сам Пуцін. Працэнтаў 70–80 так званай «Прамой лініі» — адказаў кіраўніка дзяржавы на пытанні насельніцтва — адводзіцца праблемам, што знаходзяцца ў сферы мясцовай улады. У мэтах піяру Крэмль намагаецца аператыўна рэагаваць на праблемы, узнятыя падчас шоу, што падрывае аўтарытэт мясцовага самакіравання.

***— Наколькі актыўна ўдзельнічае ў выбарах антыпуцінская апазіцыя?***

— Найбольш актыўна ад апазіцыі ўдзельнічае партыя «Яблоко». Яна вылучыла беспрэцэдэнтную для апазіцыйнай партыі колькасць кандыдатаў — каля тысячы чалавек у 125 раёнах Масквы. Акрамя таго, «Яблоко» вылучала сваіх кандыдатаў і на губернатарскіх выбарах, аднак ніхто з іх не быў дапушчаны да выбараў. Што тычыцца іншых, то яны, як правіла, пасіўныя. Ёсць тут і аб'ектыўныя падставы. З нядаўняга часу больш жорсткімі сталі патрабаванні для штабоў кандыдатаў. Сустрэчы кандыдатаў у дварах цяпер прыроўнены да мітынгаў, і іх неабходна ўзгадняць з уладамі. Кандыдата могуць зняць з дыстанцыі, калі ў агітацыйнай прадукцыі надрукаваныя матэрыялы без згоды іх аўтара. То бок весці кампанію цяпер тэхнічна больш складана.

***— Такая пасіўнасць апазіцыі дзіўная, бо хутка выбары прэзідэнта. Няўжо восеньскія выбары — не добрая нагода, каб абкатаць нейкія тэхналогіі, раскруціць лідараў?***

— Менавіта хуткімі выбарамі прэзідэнта і тлумачыцца абыякавасць партструктур. Лагічней мабілізаваць рэсурс і актыў на выбары, за якімі сочыць уся краіна. Акрамя таго, ніхто не ведае, якой будзе канфігурацыя ўвесну, з якімі лозунгамі пойдзе на іх кандыдат ад улады.

***— Апазіцыя не здолела аб'яднацца на мясцовыя выбары ўвосень 2017-га. Ці здолее яна знайсці агульную платформу пад адзінага кандыдата ў прэзідэнцкай кампаніі?***

— Пакуль лідары апазіцыі не знайшлі агульнай мовы наконт прозвішча адзінага кандыдата. Адным больш сімпатычны Яўлінскі, а іншым — Навальны. Каб не паглыбляць спрэчкі, вырашылі вярнуцца да пытання «адзінага» пасля 10 верасня. Праўда, зараз яшчэ больш пытанняў. ЦВК катэгарычна заявіла, што ў Навальнага праз наяўнасць судзімасці няма ніякіх шанцаў зарэгістравацца ў якасці кандыдата ў прэзідэнты. З іншага боку, фігура Яўлінскага малавядомая сярод маладых расіян. Пытанне адзінага кандыдата застаецца адкрытым, хаця часу няшмат — ужо напачатку снежня трэба падаваць дакументы на рэгістрацыю.

***— Ці былі выкарыстаныя падчас цяперашняй мясцовай кампаніі нейкія незвычайныя выбарчыя тэхналогіі?***

— Былі, аднак выключна для таго, каб прыцягнуць выбаршчыка на ўчасткі. Так, на старонках «ВКонтакте» з'явіўся дадатак «Разам на выбары». Дадатак прапануе зарэгістравацца і пакінуць нейкую інфармацыю пра сябе. Пасля рэгістрацыі карыстальніку прапануюць фотаздымкі іншых зарэгістраваных — з прадстаўнікоў супрацьлеглага полу. Калі нехта з іх вам візуальна спадабаўся, можна даслаць яму запрашэнне. У выніку праявы ўзаемнай сімпатыі 10 верасня можна разам зрабіць рамантычны паход да выбарчай скрыні... Складаецца ўражанне, што менавіта на ўздым яўкі працуе ўся вертыкаль. У мінулым годзе была зарэгістраваная самая нізкая яўка на федэральных выбарах у сучаснай расійскай гісторыі, і ўлада яўна непакоіцца, што тэндэнцыя захаваецца і на выбарах 2018-га.

***— Якія вынікі галасавання 10 верасня прагназуюцца?***

— Уладная партыя — фаварыт, паколькі змяніла тактыку. Прынамсі, у вялікіх гарадах большасць сяброў «Адзінай Расіі» ідуць як незалежныя кандыдаты. Паколькі «адзінаросы» трымаюць пад кантролем усе выбарчыя і падліковыя камісіі, а таксама здольныя прымусіць галасаваць бюджэтнікаў, іх перамога, у прынцыпе, прадказальная. Нешта таксама перападзе прадстаўнікам лаяльнай апазіцыі і, магчыма, кандыдатам ад «Яблока». Плюс, напэўна, у парламенты запусцяць гаваркіх папулістаў, каб дыскрэдытаваць альтэрнатыўны пункт гледжання.

***— Ці не сведчыць усё больш прыкметная абыякавасць электарату пра крызіс выбарчай сістэмы, якая патрабуе новага, больш дэмакратычнага фармату?***

— З тым, што перамены непазбежныя, пагаджаюцца шматлікія каментатары. Аднак калі рэформы і будуць, то, у лепшым выпадку, у 2019 годзе. Справа ў тым, што наступны год абяцае быць вельмі складаным для Крамля. Увесну нас чакаюць выбары прэзідэнта, а ўвосень — выбары мэра Масквы, якія пройдуць на фоне запуску непапулярнай праграмы рэнавацыі жыллёвага фонду. Праўда, дасюль у вертыкалі хапае аматараў вырашаць крызіс даверу да выбараў медыкаментознымі сродкамі, то бок абмежавацца фармальнымі зменамі. Напрыклад, праводзіць галасаванне ў працоўны дзень, які абвясціць выхадным. Фішка ў тым, што людзі, маўляў, на знак падзякі ўладзе за лішні выходны, абавязкова кінуцца галасаваць — прычым, як трэба. Як бачым, улада збіраецца да канца трымацца за цяперашнюю выбарчую формулу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Герхард Шродар



Былы канцлер ФРГ, экс-старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі (SPD), на думку нямецкіх СМІ, канчаткова пахаваў шансы аднапартыйцаў перамагчы на парламенцкіх выбарах 24 верасня. Ён не адмовіўся ад прапановы заняць пасаду старшыні Савета дырэктараў у расійскім канцэрне «Роснефть».

Справа нават не ў тым, што «Роснефть» лічыцца стратэгічнай зброяй Масквы, а сама Масква моцна пасварылася з Захадам праз украінскае пытанне. Гатоўнасць Шродара заняць пасаду аднаго з адміністратараў канцэрна з заробкам амаль некалькі сотняў мільёнаў еўра на год падрывае імідж сацыял-дэмакратаў, якія намагаюцца выяўляць сябе партыяй — абаронцай ідэяў сацыяльнай справядлівасці. Больш за тое, вяртанне экс-канцлера на старонкі прэсы нагадала выбаршчыку, што менавіта эсдэкі ў часы канцлерства Шродара былі ініцыятарамі ліберальнага пакету рэформаў Agenda 2010, супраць якіх цяпер актыўна выступае Марцін Шульц — кандыдат ад SPD на пасаду старшыні ўраду. Натуральна, апаненты эсдэкаў актыўна выкарыстоўваюць гэтую нестыкоўку.

Таму не дзіўна, што 80% немцаў асуджаюць намер Шродара ўзначаліць Савет дырэктараў канцэрна «Роснефть». Праўда, шанцаў на перамогу ў эсдэкаў і так было няшмат. На цяперашні момант выбарчы рэйтынг SPD знаходзіцца на ўзроўні 22–25 працэнтаў.

### Джока Відода



Прэзідэнт Інданезіі вырашыўся перанесці сталіцу з Джакарты. Джакарта — сёмы па колькасці насельніцтва горад у свеце — стаў сталіцай Інданезіі, паколькі тут у часы галандскага каланіялізму знаходзіўся адміністратыўны цэнтр. Праз каланіяльнае мінулае яшчэ на пачатку незалежнасці гучалі заклікі шукаць для маладой дзяржавы новую сталіцу, аднак на той момант рэалізаваць праект не атрымалася.

Сёння адступаць ужо нельга. Адзін з аргументаў на карысць новай сталіцы — жудасная экалагічная сітуацыя ў Джакарце. Паводле разлікаў эколагаў, праз 30 гадоў сталічную агламерацыю, дзе сёння жывуць каля 23 мільёнаў чалавек, чакаюць вялікія праблемы з вадой і паветрам. Акрамя таго, Джакарта знаходзіцца ў сейсмічна небяспечнай зоне. У якасці замены сталіцы прапануецца гарадок Паланкарая на востраве Калімантан з насельніцтвам усяго 170 тысяч чалавек.

Увогуле, на статус новай сталіцы прэтэндавалі 6 гарадоў краіны, аднак у Паланкараі ёсць адзін плюс — менавіта гэты горад у 1957 годзе першы прэзідэнт Інданезіі прапанаваў у якасці новай сталіцы.

Праўда, супраць пераносу сталіцы таксама хапае аргументаў. Пераезд чыноўнікаў і парламенту ў Паланкараю, паводле разлікаў эканамістаў, будзе каштаваць інданезійцам каля 6,5 мільярда еўра.

Калі Відода зможа перанесці сталіцу, то гэта дадасць аргументаў аматарам пераезду сталіцы Расіі. Апошнім часам усё больш экспертаў пагаджаюцца, што сталіцай РФ павінен быць горад за Уралам.

### Сяргей Шамба



Кіраўнік МЗС самаабвешчанай рэспублікі Абхазія выклікаў сапраўднае медыя-цунамі, узгадаўшы адзін з эпізодаў мінулага. Паводле яго сцвярджэння, адразу пасля заканчэння жнівеньскай вайны 2008 года ў Маскве быў распрацаваны план «канфедэратыўнага саюза Абхазіі і Паўднёвай Асеціі». Прычым да той канфедэрацыі, паводле статутных дакументаў, магла далучыцца і Грузія.

Калі дапусціць, што заявы Шамбы слушныя, можна сцвярджаць, што Расія планавала захапіць Тбілісі, пасадзіць там марыянеткавы ўрад і пасля фарсіраванымі тэмпамі падпісаць дамову аб канфедэрацыі. Аднак, паколькі планы па захопу Тбілісі сарваліся, Расія прызнала незалежнасць гэтых рэгіёнаў.

Хапае тых, хто бачыць у мемуарах Шамбы тонкую гульню Масквы. Магчыма, у Расіі спрабуюць давесці, што не хацелі прызнання незалежнасці Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, а зрабілі гэта ў выніку незгаворлівасці Сухумі і Цхінвалі.

Вінаватым у падзеле Грузіі робяць таксама Саакашвілі. Калі верыць нядаўняй публікацыі на сайце РИА «Новости», ідэю канфедэрацыі «тарпедаваў асабіста Міхаіл Саакашвілі».

Ёсць і трэцяя трактоўка словаў Шамбы. Нельга выключаць, што Масква зандуе глебу, каб зноў прапанаваць Тбілісі вярнуцца да ідэі абмеркавання канфедэратыўнага ўладкавання Грузіі.

# Тэрарызм як дзяржаўная палітыка



Таццяна ПРОЦЬКА

**Восенню спаўняецца 100 гадоў з дня ажыццяўлення Кастрычніцкага перавароту ў Расійскай імперыі. Пануючая ў беларускім афіцыёзе версія гісторыі кастрычніка 1917-га і яе наступстваў мае шмат недакладнасцяў, замоўчванняў і проста ілжывых ацэнак. Раней у савецкіх СМІ іх называлі «белымі плямамі гісторыі». На мой погляд, гэта чорныя плямы.**

## Як пачыналася савецкая ўлада

У Беларусь савецкая ўлада прыйшла пазней за кастрычнік 1917 года, прычынай таму была Першая сусветная вайна. Праз нашу тэрыторыю праходзіў Заходні фронт, на якім ваявалі каля 1,5 мільёна салдат і афіцэраў. Акрамя салдат у прыфрантавых гарадах і мястэчках Беларусі сканцэнтраваліся ўцекачы з заходніх паветаў, пачалася эпідэмія тыфу і халеры. Каб неяк вырашыць гэтыя праблемы, уцекачоў сталі прымусова накіроўваць углыб Расіі — «за Днепр». Значная частка Беларусі згубіла сваё карэннае насельніцтва.

У кастрычніку 1917 года палітычным і адміністрацыйным цэнтрам Беларусі лічыўся Смаленск. Менавіта з гэтым горадам звязаныя першыя ўражанні беларусаў аб «чырвоным тэроры», з якога пачалося ўсталяванне савецкай улады.

«Чырвоны тэрор» — гэта не пісьменніцкая прыдумка, так у афіцыйным друку называліся першыя мерапрыемствы па ўсталяванні ўлады Саветаў. Гэтыя мерапрыемствы мелі тры асноўныя накірункі — фізічнае вынішчэнне тых, хто аказвае сілавы супраціў савецкай уладзе (дазвалялася расстрэльваць людзей, як напісана ў афіцыйных дакументах, «на месцы»), узяцце закладнікаў, зняволенне ў канцэнтрацыйныя лагеры.

Колькі людзей у Беларусі загінула ў выніку сілавога супраціву ўсталяванню савецкай улады — пытанне, якое не мае адказу дасюль. Дакладных крыніц, якія б утрымлівалі гэтую інфармацыю, пакуль не знойдзена. Існуюць лічбы па Украіне і некаторых частках Расіі, сабраныя Асобнай Камісіяй па расследаванні злачынстваў бальшавікоў, якая знаходзілася пры галоўнакамандуючым Узброенымі сіламі на поўдні Расіі (так афіцыйна называлася камісія) генерале Калчаку.

## Закладнікі

Адной з найбольш балючых для звычайнага насельніцтва формаў «чырвонага тэрору» ў Беларусі было ўзяцце закладнікаў і іх расстрэлы. Закладнікі былі, калі можна так сказаць, афіцыйныя і неафіцыйныя. Першыя фіксаваліся ў тагачасным справаводстве карных органаў і спецслужбаў, другія — не праходзілі ніякай рэгістрацыі, прозвішчы іх засталіся невядомымі. Частка з іх была адпушчаная, частка загінула — часам, без пахавання і бясследна.

17 снежня 1918 года быў распаўсюджаны цыркулярны ліст ВЧК (устойлівыя абрэвіятуры ў тэксце дадзеныя так, як іх успрымалі жыхары тагачаснай Беларусі), загад №208 за подпісам Фелікса Дзяржынскага, дзе гаворка ішла пра новае для людзей паняцце — закладнікаў. Згодна дакументу, закладнікамі з'яўляліся прадстаўнікі мірнага насельніцтва, якія павінны былі адказваць (да расстрэлу) за ўзброены супраціў усталяванню Савецкай улады.

У дакуменце тлумачылася: «Ёсць тры пытанні, у якіх чэкісты часам грэшныя, і якія таму неабходна ўдакладніць. Гэта закладнікі, спецыялісты і арыштаваныя наогул. Што такое закладнік? Гэта — палонны член той грамады ці той арганізацыі, якая з намі змагаецца, прычым такі член, які мае нейкую каштоўнасць, якім гэты праціўнік даражыць і які можа служыць залогам таго, што праціўнік дзеля яго не загубіць, не расстраляе нашага палоннага таварыша. З гэтага вы зразумееце, што ў закладнікі варта браць толькі тых людзей, якія маюць вагу ў вачах контррэвалюцыянераў. За якога-небудзь вясковага настаўніка, лесніка, млынара або дробнага крамніка, ды яшчэ габрэя, праціўнік не заступіцца і нічога не дасць. Яны што шануюць? Высокапастаўленых саноўных асобаў, буйных памешчыкаў, фабрыкантаў, выбітных работнікаў, навукоўцаў, шляхетных сваякоў тых, хто быў пры ўладзе, і таму падобных. З гэтага асяроддзя і варта абіраць закладнікаў».

Паколькі «каштоўнасць закладніка» (так у тэксце цыркуляра) на месцы бывае цяжка ўстанавіць, рэкамендавалася кансультавацца з Масквой, скласці папярэдні спіс закладнікаў і таксама накіраваць яго ў ВЧК.

Цыркуляр быў напісаны з улікам расійскай сітуацыі часоў грамадзянскай вайны. На тэрыторыі Беларусі хутка настала іншая сітуацыя. У лютым 1919 года пачалася польска-савецкая вайна, і беларускае насельніцтва сталі выкарыстоўваць у якасці закладнікаў для вызвалення вайскоўцаў Чырвонай арміі, якія трапілі ў палон да арміі Пілсудскага.

Пра тое, як дзейнічалі чэкісты па знаходжанні і ўтрыманні афіцыйных закладнікаў на тэрыторы Беларусі падчас польска-савецкай вайны, можна меркаваць па пратаколах Калегіі ЧК Бел. (так скарочана называлася беларускае падраздзяленне ВЧК) за красавік — чэрвень 1919 года, якія захоўваюцца ў архіве КДБ у Мінску. Пратакол № 4 ад 11 мая 1919 года:

«Слухалі: 1. Узяцце закладнікаў. Абмеркаваўшы ўсебакова пытанне аб меркаваным абмене закладнікамі, пастанавілі: арыштаваць у тэрміновым парадку закладнікамі больш вядомых польскіх грамадзян». Пратакол №8 ад 18 мая: «Па прапанове тав. Багуцкага, якім чынам можна знайсці важных закладнікаў, калегія пастанавіла: прапанаваць тт. Сянюта і Піхоляк у тэрміновым парадку сабраць у старых кнігах былога самакіравання, якія знаходзяцца дзе-небудзь у архівах, звесткі пра асобаў, якія займаюць высокае становішча ў колах контррэвалюцыянераў згодна сваёй рухомай маёмасці». У закладніках былі і «5–6 равінаў».

Трэба адзначыць, што афіцыйныя пратаколы ЧК Беларусі не ўтрымлівалі звестак пра тое, як на самай справе адбывался ўзяцце закладнікаў. Звычайна абіраліся заможныя хаты, жыхары якіх рабіліся закладнікамі, ці затрымліваліся добра апранутыя людзі на вуліцы, ці паводле паклёпу, ці з асабістай помсты з боку чэкістаў. «Каштоўнымі» з'яўляліся заможныя асобы польскай нацыянальнасці. Нацыянальнасць выяўлялася па рэлігійнай прыналежнасці — калі чалавек хадзіў да касцёлу, яго запісвалі ў палякі.

Шукаць і чытаць кніжкі часу не было. Улік расстраляных неафіцыйных закладнікаў ніхто не рабіў, прозвішчы забітых людзей не занатоўваліся. Пазней у партыйных установах Беларусі на закрытых пасяджэннях разглядалася дзейнасць чэкістаў па такіх расстрэлах, яна была асуджаная.

Калі дакладныя спісы затрыманых закладнікаў накіроўваліся ў Маскву, найбольш «каштоўныя», на думку чэкістаў, закладнікі — у Смаленск.







## Багата каштоўных

На 23 ліпеня 1919 года ў Смаленскіх турмах змяшчалася ўжо больш за 100 закладнікаў з Беларусі. Мясцовыя турмы былі перапоўненыя, новых закладнікаў няма куды было змяшчаць. Каб вырашыць пытанне, што надалей рабіць, была створаная спецыяльная Міжведамасная камісія, якая складалася з трох прадстаўнікоў органаў савецкай улады — губернскага аддзела юстыцыі Ільіна, сакратнага аддзелу губернскай ЧК Якімава і губернскага Рэўтрыбунала нам. загадчыка карным пададдзела Гемпфлера. Камісія павінна была «высвятляць, хто са знаходзячыхся ў месцах зняволення гор. Смаленска закладнікаў адпавядае гэтаму прызначэнню, хто з іх безумоўна павінен заставацца ў зняволенні і каму мера стрымання можа быць зменена».

Члены Камісіі разгледзелі «вельмі малазмястоўныя дакументальныя звесткі аб зняволеных», апыталі саміх зняволеных. У выніку вырашана было пакінуць пад вартай 55 чалавек. Аднаго (Шытко С.Ф.) адправіць у канцлагер Мінска, чатырох — у ЧК Бел. у Мінск, двух — у Барысаў пад асабістую адказнасць Камітэта Барысаўскай арганізацыі Камуністычнай партыі, вызваленыя пад падпіску аб нявыездзе былі 34 чалавекі, адпушчаныя дадому — 16. Пад вартай была пакінутая і Ідалія Антонаўна Доўнар-Запольская — як магчымая жонка вядомага навукоўца Мітрафана Доўнар-Запольскага, якому ў маі 1919 года прапанавалі пасаду міністра фінансаў ва ўрадзе БНР — «да высвятлення пра мужа».

## «Тавар для абмену»

7 ліпеня 1919 года для ўдакладнення «колькасці і палажэння польскіх закладнікаў, якія знаходзяцца ў месцах зняволення», у Смаленск з Масквы прыбыў прадстаўнік наркамата па справах нацыянальнасцяў Вайцяхоўскі Ю.А. з адпаведным мандатам. Дэталёва абследаваўшы становішча закладнікаў, ён не пагадзіўся з рашэннем камісіі, і ў сваёй дакладной запісцы даў характарыстыку закладнікам і іх утрыманню. Ён напісаў наступнае.

Жанчыны і мужчыны — закладнікі ўтрымліваліся ў розных турмах. Да закладнікаў адносіліся асобы польскай нацыянальнасці, у асноўным дваране, з вышэйшай адукацыяй, вядомыя ў Беларусі і Польшчы. «Асабліва каштоўнымі» лічыліся закладнікі «з сувязямі ў Польшчы» — сваякамі, знаёмымі, сябрамі. «Не варта выпускаць з уліку, што закладнік — гэта тавар для абмену, таму ён павінен быць добрай якасці», — адзначаў Ю. Вайцяхоўскі. Аднак утрыманне закладнікаў у Смаленску ніяк не спрыяла падняццю іх «якасці».

Вайцяхоўскі зазначыў, што ў закладнікі людзі траплялі не з улікам асабістай каштоўнасці, а з помсты, асабістых сварак. Шмат было старых, хворых. У якасці прыкладу ён зазначыў, што ў закладнікі трапіў В. Л. Іваноўскі, вядомы хімік, адзін з лепшых спецыялістаў у Расіі па сушцы пладоў і гароднінь, пераканаены беларус.

Мужчыны на ўтрыманне ў турме «не жаліліся», яны працавалі на агародах і ім дазвалялі штодня атрымліваць перадачы з волі. Жанчыны ўтрымліваліся ў горшых умовах — перадачы ім дазвалялася атрымліваць толькі 2 разы на тыдзень, і малако (асноўны прадукт перадачы) псавалася, таму яго перадавалі мала. Пад вокнамі турмы знаходзілася адкрытая яма, куды кожную ноч вылівалі адкіды і фекаліі. Камеры перапоўненыя, медычная дапамога адсутнічала. Меліся выпадкі захворвання тыфам. Пасля таго, як месца пасля хворага вызвалялася, новага закладніка клалі на матрац без усялякай дэзінфекцыі. Бялізна, падушкі адсутнічалі.

* * *

Сёння без закладнікаў не абыходзіцца ні адзін фільм пра тэрарыстаў ці проста бандытаў. Гэтая з'ява асуджаная чалавецтвам як найгоршае злачынства. Але і сёння браць людзей у закладнікі вельмі папулярная фішка ўладаў, толькі форма змянілася...




# Якія літаратурныя шансы ў Саргасава мора?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Мы працягваем разгляд твораў, што трапілі ў лонг-ліст прэміі імя Ежы Гедройца. Гэтым разам ацэньваем шансы на перамогу гродзенскага пісьменніка Сяргея Астраўца са зборнікам апавяданняў «Саргасава мора».**

На мой погляд, шансы ёсць. Але праз тое, што кніга распіараная менш за некаторых яе канкурэнтак, здаецца, што шанцаў быццам бы і няшмат. Найбольш запамінаецца ў апавяданнях Сяргея Астраўца атмасфера, што ствараецца апісаннямі шматлікіх дэталяў.

Ці даюць Гедройца за «атмасфернасць» твораў?

У Сяргея Астраўца да атмасферы яшчэ ёсць постмадэрністычныя адсылкі. Гэта чытво «для разумных», для тых, хто «ў тэме» нацыянальнага пытання, прынамсі. Вельмі істотны эфект пазнавання: а, гэта ж Злата Прага! А на Грунвальдскім фэсце ўсё так і бывае! А калі чытаеш апавяданне «Саргасава мора», што дало назву зборніку, то думаеш: ну, як аўтар змог перадаць адчуванні цэлага пласта грамадства? Саргасава мора, куды праз перашкоды, створаныя чалавекам, не можа вярнуцца рыба, што прыплыла ў Нёман на нераст, і нейкія міфічныя часы беларушчыны, куды ніхто нават не ведае дарогі…

Такія бясконцыя пошукі будучыні. Але людзі шукаюць: шукаюць чытачы і пісьменнікі, грамадскія дзеячы і журналісты… Журналістыка, дарэчы, — адзін з заняткаў Астраўца разам з пісьменніцтвам, таму тэксты атрымліваюцца «смачныя», даволі лёгка чытальныя.

Назва кнігі асацыюецца яшчэ з фільмам «Шырокае Саргасава мора» — экранізацыяй рамана Джын Рыс «Антуанета» (прыквэл да «Джэн Эйр» Шарлоты Брантэ, гісторыя першай жонкі містэра Рочэстара). Там Саргасава мора выступае як сімвал глыбіні псіхічнай хваробы Антуанеты і бездані непаразумення, што ляжыць між ёй і мужам. А Саргасава мора Сяргея Астраўца — хіба не бездань, што раздзяляе грамадства на «свядомых» і «ватнікаў»? У іншых апавяданнях кнігі ёсць сюжэты пра спробу пераадолець гэту бездань. Напрыклад, аб'ядкаца вакол постаці Першадрукара («Гутэнберг»).

Напрыканцы хочацца адзначыць, што тэксты Сяргея Астраўца — гэта досыць прыемнае чытво. З развагамі, але без «чарнухі» і бясконцай тугі. Затое з (сама)іроніяй і гумарам. «Новы Час» рэкамендуе!

# «Палёт над гняздом зязюлі» па-беларуску. Дапаможам?

**Беларускія перакладчыкі распачалі збор сродкаў на выданне першай кнігі серыі «Амерыканка» — рамана Кена Кізі «Палёт над гняздом зязюлі» ў перакладзе на беларускую мову на платформе Ulej.by.**




Краўдфандынг-кампанія ў падтрымку беларускамоўнага Кізі мае дэвіз «Блізкае нам вар'яцтва». У рамане «Палёт над гняздом зязюлі» моцны і ўнутрана свабодны пацыент арэгонскай псіхіятрычнай клінікі супрацьстаіць аўтарытарнай Вялікай Сястры, якая з маўклівай згоды дактароў шмат гадоў трымае няспынны кантроль над літаральна прысабечаным ёй аддзяленнем. Дзе, дарэчы, большасць тэрарызаваных ёй пацыентаў знаходзіцца абсалютна па сваёй волі.

Раман Кізі не толькі прымусіў амерыканскае грамадства ў 1960-х гадах перагледзець метады лекавання і ўмовы ўтрымання пацыентаў у псіхіятрычных шпіталях. Кніга стала падставай для грамадскага дыялогу пра свабоду, чалавечую годнасць і правы асобы быць не такой, як усе. Тэмы, якія падымае Кізі, надзвычай актуальныя ў XXI стагоддзі ў постсавецкіх грамадствах, якія акурат цяпер перажываюць імклівыя змены.

Вялікая Сястра, якая ў арыгінале мае вымоўнае прозвішча Ratched, у беларускім перакладзеператварылася ў Брыдар. Гэтую і многія іншыя моўныя знаходкі прыўнёс у беларускі тэкст Аляксей Знаткевіч. «Я пераклаў «Палёт над гняздом зязюлі», бо гэта адна з найлепшых кніг у літаратуры XX стагоддзя», — матывуе свой выбар перакладчык.

Вы можаце дапамагчы выданню рамана Кізі — передзамоўце асобнік кнігі за 15 рублёў. Калі вы інвестуеце ў кампанію 40 рублёў, дык падтрымаеце развіццё ўсёй кніжнай серыі і ўступіце ў своеасаблівы Клуб сяброў «Амерыканкі».

Апроч шэдэўру Кізі, перакладзеныя на беларускую мову і чакаюць выдання яшчэ тры раманы: «Байцоўскі клуб» Чака Паланюка, «Чытво» Чарлза Букоўскага, «Пенелапіяда» Маргарэт Этвуд.

> **Раман Кізі не толькі прымусіў амерыканскае грамадства ў 1960-х гадах перагледзець метады лекавання і ўмовы ўтрымання пацыентаў у псіхіятрычных шпіталях. Кніга стала падставай для грамадскага дыялогу пра свабоду, чалавечую годнасць і права асобы быць не такой, як усе**

# «Князь Астрожскі вывеў раці»




**Па гарызанталі:** 1. Пасада галоўнакамандуючага войскамі, што займаў у ВКЛ вялікі князь Канстанцін Астрожскі, які 8 верасня 1514 года пад Оршай са сваім 30-тысячным войскам атрымаў вялікую перамогу над 80-тысячным войскам Масковіі. Пра гэтую падзею хутка стала вядома ва ўсёй Заходняй Еўропе. 4. «Слава Воршы ўжо не горша,\\ Слаўся, пан Астрожскі!». З беларускай народнай песні «Ой, у нядзелю percenька». 7. Цэнтр якой-небудзь дзейнасці (пераноснае). 9. Званочкі, якія прымацоўваюцца да хамута ці дугі. 10. … або булава, шастапёр. Старажытная зброя ўдарнага дзеяння. 12. Учынак, дзеянне. 13. Плоскі слой чаго-небудзь. 14. Раённы цэнтр у Яраслаўскай вобласці, адзін са старажытнейшых гарадоў Расіі. 16. Рабочы, спецыяліст па апрацоўцы, зборцы металічных вырабаў. 17. Узрыў зарада ў канале агнястрэльнай зброі. 19. Літара ў старажытнаславянскім алфавіце. 20. Горад на Берасцейшчыне, дзе існаваў магутны бастыённы замак на рацэ Ведзьме, які вытрымаў шмат аблогаў маскоўскіх войскаў, татарскіх набегаў і лічыўся адным з самых непрыступных замкаў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай. 23. «… мая, народу скарб нятленны,\\ … мая, ўваскросні і жыві!». З верша Ларысы Геніюш «Мова мая». 25. Рака, левы прыток Прыпяці, на беразе якой каля Клецка 5 жніўня 1506 года войска ВКЛ пад кіраўніцтвам Міхаіла Глінскага ўшчэнт разбіла полчышчы крымскіх татар, што паклала канец паходам татар на Беларусь. 26. «Ў … прыходзяць ашмянцы — на плечах доўгія дзіды,\\ З шаблямі слонімцы валяць і меткія лучнікі з Ліды». З паэмы Адама Міцкевіча «Мешка, князь Навагрудка». 27. … Альгерд. Пачэсны дадатак да свайго імя, які атрымаў вялікі князь ВКЛ, адзін з найвыдатнейшых палкаводцаў, пераможца ў бітвах на Сініх Водах (1362 г.), з крыжакамі і з войскамі Масковіі. У часы яго ўладарання дзяржаўнай мовай была старажытнабеларуская і межы ВКЛ даходзілі да Чорнага мора.

**Па вертыкалі:** 1. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная акруга ў Рускай дзяржаве XVI–XVII стагоддзя. 2. Чальцы каталіцкага духоўна-рыцарскага ордэна, заснаванага ў Палесціне ў перыяд крыжацкіх паходаў. 3. Майстар сваёй справы (размоўнае). 5. Адклад не ідзе ў … (прыказка). 6. … або Ох. Паводле павер'яў, маленькі барадаты чалавечак, які жыве пад зямлёю; вобраз яго сустракаецца ў беларускіх чарадзейных казках. 8. … (у хрышчэнні Аляксандр). Імя вялікага князя ВКЛ, таленавітага палкаводца, што ў час Грунвальдскай бітвы (1410 г.) узначаліў войскі, якія былі асноўнай сілай у разгроме крыжакоў у гэтай бітве. Перамога нашых продкаў у Грунвальдскай бітве на 500 гадоў адбіла ахвоту нямецкіх заваёўнікаў ісці вайной на беларускую зямлю. 10. Артылерыйскае падраздзяленне. 11. … стол. Установа, якая рэгіструе асоб, што жывуць у пэўнай мясцовасці. 12. Верхні паўпаверх дома. 15. Слова, якім у магіі называюць усякую іншую прастору, якая адрозніваецца ад матэрыяльнай. 18. «Ды насустрач лютым гадам\\ Князь Астрожскі вывеў раці,\\ Даць адпор ашчэрным катам,\\ Бараніць зямельку-…». З верша А. Грушэцкага «Балада а перамозе». 21. Жоўта-чырвоная фарба. 22. Калектыў музыкантаў (абр.). 24. «Другі баран — ні «бэ», ні «…»,\\ А любіць гучнае імя». З байкі К. Крапівы «Дыпламаваны баран».

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Беларусы ў свеце, або Гісторыя з геаграфіяй» (НЧ, №29 ад 11 жніўня):**

**Па гарызанталі:** 1. Прага. 6. Юзаф. 8. Астана. 10. Осла. 11. Янка. 12. Мовазнавец. 15. Іван. 16. Шлем. 17. Два. 18. Ікар. 19. Чылі. 20. Час. 22. Куба. 23. Адна. 26. Гераізацыя. 28.Ківі. 29. Стос. 31. Андрэй. 32. Ліма. 33. Гавai.

**Па вертыкалі:** 2. Рыс. 3. Грам. 4. Устаў. 5. Янтар. 7. Заяц. 9. Казімір. 10. Орлік. 13. Пахвальба. 14. Аляксандр. 19. Чукотка. 21. Барыс. 24. Ганна. 25. Жарэс. 26. Гіём. 27. Ясна. 30. Ота.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №824

Падпісана да друку 01.09.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.